15 студзеня 2021 | № 2 (710)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Як судзілі Святлану Алексіевіч
стар. 10

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144




# «Часам не да законаў»

## Абсурды беларускай рэчаіснасці

**Падвезці міліцыянта з сабой у ізалятар, трапіць пад суд за снегавіка і карагод у лесе, сесці за «падтрымку пратэстаў у думках» — у 2020-м многія беларусы развучыліся здзіўляцца рэчам, якія яшчэ нядаўна здаваліся абсурднымі і немагчымымі.**

Гэта пачалося не ў жніўні 2020-га. Хапала трэшу і раней: глуханямы мацюкаўся, бязрукі размахваў рукамі, фота з птушкай — пікет, снегавік — пікет. Але тое, што адбываецца цяпер, прэтэндуе на топ абсурду. «Часам не да законаў», — заявіў восенню Лукашэнка ў размове з работнікамі пракуратуры.

Прапануем вам толькі некаторыя прыклады.

### Выйшаў — і стаіць нахабна і мэтанакіравана перад міліцыяй

У Беларусі чалавека могуць забіць за тое, што ён выйшаў і «нахабна стаіць перад міліцыяй» — прынамсі, так каментуе смерць чалавека кіраўнік КДБ краіны. Іван Церцель гэта распавёў рабочым «Гродна-Азоту», фрагмент расшыфроўкі аўдыёзапісу сустрэчы прыводзіць выданне «Наша Ніва»:

«Таварыш Тараўноўскі або Тарайкоўскі ў Мінску загінуў. Але хто бачыў гэтыя здымкі — бачыў, што чалавек стаіць перад АМАПам, выйшаў — і нахабна стаіць перад міліцыяй (абурэнне ў зале). Ён стаіць мэтанакіравана». Па якіх прававых нормах дазволены расстрэл за "мэтанакіраванае стаянне" і чаму да гэтага часу не заведзеная крымінальная справа аб забойстве, Церцель не патлумачыў.

34-гадовы Аляксандр Тарайкоўскі загінуў каля станцыі метро «Пушкінская» 10 жніўня, на другі дзень пратэстаў. Праз некалькі дзён з'явілася відэа, на якім выразна відаць, што ў Тарайкоўскага з блізкай адлегласці страляе супрацоўнік аднаго са спецпадраздзяленняў, як мяркуецца, «Алмаза». Крымінальная справа аб смерці пратэстоўца да гэтага часу не распачатая, праверка, якая праводзіцца Следчым камітэтам, прыпыненая 13 лістапада.

### «У думках падтрымліваў пратэстоўцаў»

Нават за «падтрымку пратэстаў у думках» чалавека могуць пасадзіць — так здарылася з мінчуком Кірылам Даўгаруkавым. Чытаць думкі беларускія праваахоўныя органы пакуль не навучыліся: Кірыла затрымалі 29 лістапада непадалёк ад яго дома — калі ён ішоў у краму, — міліцыя спыняла мінакоў недалёка ад месца правядзення акцыі пратэсту.

На судзе Кірыл Даўгарукаў сказаў, што на самой акцыі не прысутнічаў, але «ў думках падтрымліваў пратэстоўцаў». «Такім чынам, вы вінаватыя», — пастанавіла суддзя Анастасія Ляйкоўская і дала яму 13 сутак турмы. У ізалятары Кірыл заразіўся на COVID-19.

### Пратакол на снегавіка

У Беларусі можна трапіць пад суд за снегавіка — у бел-чырвона-белых колерах, з вусамі і надпісам «Жыве Беларусь!».

Працяг на стар. 2 »

15 студзеня 2021 | № 2 (710) Новы час

# «Часам не да законаў»

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1

Менавіта за такі «пікет» (паводле версіі міліцыі) ва ўласным двары будуць судзіць жыхара Гомельскага раёна.

Стваральнік снегавіка ад зносін з прэсай адмовіўся — пра выпадак распавёў беларускі праваабаронца Леанід Судаленка.

«Вясковец параіў участковаму скласці пратакол на снегавіка, таму што ён пікетаваў. Нягледзячы на тое, што на той момант не было ні снегу, ні снегавіка, жыхара вёскі будуць судзіць», — сказаў Судаленка. На наступны дзень праваабаронцу затрымалі і дапыталі.

У 2019 годзе за снегавіка з улёткай берасцейцу прысудзілі штраф — 25 з паловай рублёў (блізу $12).

## У турме не забойцы, а тыя, хто распавёў пра забойства

За забойства чалавека ў Беларусі саджаюць не абвінавачаных у забойстве, а тых, хто распавядаў пра забітага: па факце забойства 31-гадовага Рамана Бандарэнкі дагэтуль не распачатая крымінальная справа. Прынамсі, сваякам пра гэта не паведамілі.

Мінчука каля ягонага дома збіла і выкрала група людзей, якія зрывалі і знішчалі пратэсную сімволіку ў мінскіх дварах (бел-чырвона-белыя стужачкі і плакаты). Пасля выкрадання Рамана привезлі ў рэанімацыю ў крытычным стане. На наступны дзень, 12 лістапада, ён памёр.

Неўзабаве пасля смерці мінчука Лукашэнка заявіў пра тое, што Бандарэнка быў п'яны. Вось толькі медыкі не выявілі ў крыві забітага слядоў алкаголю — пра гэта журналістка беларускага партала TUT.BY Кацярына Барысевіч і распавяла ў сваім артыкуле на аснове звестак ад анестэзіёлага Арцёма Сарокіна. Праз некалькі дзён і яе, і лекара затрымалі — і да гэтага часу трымаюць у следчым ізалятары па абвінавачванні за «разгалашэнне медычнай таямніцы, якое пацягнула цяжкія наступствы» (частка 3 артыкула 178 КК РБ). Паколькі сям'я пацярпелага не пярэчыла супраць публікацыі гэтых звестак, складана зразумець, пра якія «цяжкія наступствы» ідзе гаворка.

Беларуская прэса звязвае групу выкрадальнікаў і магчымых забойцаў Бандарэнкі з высокапастаўленымі спартоўцамі і чыноўнікамі, блізкімі паплечнікамі Аляксандра Лукашэнкі.

## На «суткі» на таксі

Беларусы не проста самі прыходзяць адбываць «суткі» за ўдзел у пратэстах, але і падвозяць міліцыянтаў — прынамсі, так адбылося з фатографам «Нашай Нівы» Аляксандрай Філіповіч-Сушчыц, якая працавала на маршы памяці Рамана Бандарэнкі.

Сітуацыі, калі людзей адпускалі на ўмовах вяртання ў СІЗА — калі там вызваліцца месца, — не навіна для пратэснай Беларусі 2020-га. Але, здаецца, упершыню бацькі затрыманай падвозілі яе ў ізалятар разам з участковым, які афармляў яе. Чаму? Каб не чакаць да ночы ў «апорцы» (апорным пункце міліцыі) машыну.

## Арышт за карагод у лесе

У Беларусі можна сесці на сем сутак за карагод у лесе — рашэнне менавіта з такой фармулёўкай вынес суддзя Андрэй Лагуновіч па справе 59-гадовай гамяльчанкі Алы К. У яе доме адбыўсяператрус.

Паводле пратаколу, жанчына «без дазволу гарвыканкама прыняла актыўны ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу ў лесе каля вёскі Новая Бухалаўка».

Міліцыя затрымала яшчэ дзвюх удзельніц карагода. Адной з іх, 57-гадовай Алене Літвінавай, прысудзілі 3 сутак. Хаця да суда яна адбыла ў ізалятары 5 сутак.

## Дзеці гуляюць у АМАП і малююць пратэсты

Беларускія дзеці гуляюць у АМАП і пратэсты — фота і відэа з розных гарадоў Беларусі пра гэта распаўсюджваліся ў тэлеграме і інстаграме.

Непаўналетнія беларусы ладзяць свае акцыі ў дзіцячых садках. А таксама малююць сілавікоў і бел-чырвона-белыя сцягі.

## Аблавы ў кватэрах

Беларускі АМАП ладзіць аблавы на пратэстоўцаў у кватэрах і звярае прапіску ў пашпартах — гэта адбывалася, напрыклад, 15 лістапада, калі міліцыя зачышчала народны мемарыял у двары дома Рамана Бандарэнкі.

Дзясяткі чалавек пахаваліся ў падвалах бліжэйшых дамоў, многіх прытулілі жыхары ў кватэрах. Міліцыя правярала пашпарты ў мінакоў, высвятляла, ці сапраўды яны тут жывуць, і палявала на пратэстоўцаў, якія схаваліся. «Для мяне [гэта] проста сюр», — падзялілася з «Настоящим временем» удзельніца падзей.

## Суды над памерлымі і эмігрантамі

У Беларусі за ўдзел у маршах пратэсту гатовыя судзіць і памерлых, і тых, хто даўно з'ехаў.

У верасні жыхар Лідскага раёна даведаўся пра запланаваны суд над ягонай маці, Валянцінай Вайтукевіч, за ўдзел у маршы пратэсту — нягледзячы на тое, што тая памерла ў 2014 годзе. Суддзя папрасіў прабачэння і сказаў, што выклікаць памерлую жанчыну больш не будуць, распавёў праваабаронца Алег Волчак.

Позва прыйшла і расіянцы Маі Корсік — яе збіраліся судзіць «за ўдзел у масавым мерапрыемстве». Толькі вось жанчына даўно жыве ў Аўстраліі, а ў Беларусь апошні раз прыязджала ў 2017 годзе. Міліцыя спыніла адміністрацыйны працэс.

## Збіла міліцыя — трапіш у турму

Пешахода збіў мікрааўтобус міліцыі, які ехаў па сустрэчцы, — і цяпер пацярпеламу пагражае да 6 гадоў турмы.

34-гадовы мужчына «не выконваў ПДР», паведамілі ў ГУУС Мінска. На яго завялі крымінальную справу за хуліганства — нібыта ён кідаў камяні і пашкодзіў машыну міліцыі.

## «Пікетаванне з дапамогай аптычнага прыбора "праектар"»

У Беларусі сілавыя структуры жорстка распраўляюцца з тымі, хто спрабуе выказваць нязгоду. Можна атрымаць штраф або тэрмін (!) — за гірлянды бел-чырвона-белых колераў. Таму беларусы перайшлі на скрынкі ад тэлевізараў LG падобнай каляровай гамы.

Можна атрымаць штраф за «пікетаванне з дапамогай аптычнага прыбора "праектар"».

Дзіўныя людзі з мікрааўтобуса могуць разбіць вам акно за вывешаны за ім унутры кватэры сцяг ці проста скрасці сцяг з вашага балкона. Дарэчы, бел-чырвона-белы сцяг на балконе, паводле версіі міліцыі, — гэта «масавае мерапрыемства».

## Забарона на бчб — нават у зефіры і жэле

Спалучэнне белага, чырвонага і белага ў Беларусі — пад дзяржзабаронай. Нават у жэле і пасціле.

Супрацоўніца сеткі прадуктовых крам «Дыяніс» напісала ліст падначаленым: «Обратите, пожалуйста внимание на приготовление фруктового желе: Не допускайте сочетание бело-красного цветов» (арфаграфія і пунктуацыя захаваныя).

Журналістам TUT.BY у пачатку снежня ўдалося пацвердзіць сапраўднасць ліста, а таксама даведацца, што «супрацоўнік выказаў свой персанальны пункт гледжання і ініцыятыву».

А ў Жодзіне 30 кастрычніка суд аштрафаваў Іраіду Міско на 540 беларускіх рублёў ($205) за ўдзел у несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах. На адной з фатаграфій, паказаных падчас суда, жанчына трымае ў руцэ пасцілу бел-чырвона-белага колеру. «Гэта так яна выказвае пратэст. Зефіркай», — сказаў у судзе капітан міліцыі Яўген Сямашка.

## Высечка сцягоў з-пад лёду

Самымі дзіўнымі выглядаюць спробы дабрацца да сцягоў, схаваных пад лёдам.

Беларусы зімой хаваюць сцягі пад лёдам, а камунальныя службы спрабуюць іх дастаць — ці хаця б засыпаць пяском.

А пасля снегападу замест таго, каб прыбіраць двары і чысціць дарожкі, камунальнікі засыпаюць бчб-сцягі, што з'яўляюцца паўсюдна на белым снезе.

Барацьба беларускіх камунальных службаў з «незарэгістраванай сімволікай» (гэта значыць, з нацыянальнымі бел-чырвона-белымі сцягамі) з надыходам зімы набыла ўражлівыя маштабы.

З моманту жнівеньскіх выбараў у Беларусі, не прызнаных дзясяткамі дзяржаў у свеце, у краіне было затрымана больш за 33 тысячы чалавек і больш за 900 чалавек — па крымінальных справах, 169 з іх прызнаны палітвязнямі. Сотні збітых і шпіталізаваных — у тым ліку дзесяць чалавек з агнястрэльнымі раненнямі. Валанцёры праваабарончага цэнтра «Вясна» задакументавалі больш за 1000 сведчанняў ахвяр катаванняў. Як мінімум пяць чалавек забітыя, яшчэ некалькі загінулі або скончылі жыццё самагубствам па прычынах, якія могуць быць звязаныя з пратэстамі.

У той жа час не вядома ні пра адну крымінальную справу, заведзеную ў дачыненні да сілавікоў за гвалт да мірных грамадзян.

Паводле звестак "Вясны", у Беларусі адбываюцца самыя масавыя палітычныя рэпрэсіі ў Еўропе за апошнія 40 гадоў.

# «У нас забаронена хадзіць з ліхтарыкамі?»

**У Мінску ў нядзелю, 10 студзеня, затрымалі цэлую сям'ю. Гэта здарылася ўвечары на вуліцы Леаніда Бяды. Затрыманне трапіла на відэа — на ім бачна, як людзей зацягваюць у машыны невядомыя без апазнавальных знакаў. Бацька, маці і дачка атрымалі ад 15 да 20 сутак арышту.**

«Штодня людзі з вокнаў у адзін і той жа час свецяць ліхтарыкамі, перакрыкваюцца. Тыя, хто ў гэты момант на вуліцы, таксама далучаюцца. Затрымалі хлопцаў, якія проста свяцілі ліхтарыкамі», — распавяла чытачка.

Затрыманыя — Анжаліка Грамыкіна (52 гады), Аляксандр Самусеў (62 гады), а таксама іх дачка Ксенія Самусева (18 гадоў).

— У Мінску ўжо была ноч. Мама патэлефанавала мне з РУУС і сказала, што іх затрымалі. Гэта здарылася якраз у дзень яе нараджэння, — распавёў Раман, сын Анжалікі Грамыкінай.

11 студзеня мінчукоў, затрыманых на вуліцы Леаніда Бяды, судзілі праз скайп. Самусевы выходзілі на сувязь з ІЧУ на Акрэсціна, у іх быў адвакат. Усіх палічылі ўдзельнікамі несанкцыянаванага масавага мерапрыемства, якія аказалі непадпарадкаванне падчас затрымання (артыкулы 23.34 і 23.4 КаАП).

Рашэнні на судах прынялі такія: Ксенія Самусева —15 сутак, Анжаліка Грамыкіна — 17 сутак, Аляксандр Самусеў — 20 сутак.

Затрыманыя распавядалі падчас судовых пасяджэнняў: у той вечар у іх дома былі госці. Сям'я іх праводзіла і вырашыла крыху пашпацыраваць.

— Мы ішлі па вуліцы з бацькамі ўтрох. Калі я павярнулася, убачыла машыну без апазнавальных знакаў, — распавяла 18-гадовая Ксенія Самусева. — Праз некалькі секунд на тату ззаду напалі людзі — яны былі не ў форме, не прадставіліся, сталі заломваць рукі, а я крычала: «Што вы робіце?» Тату пацягнулі ў іншую машыну, а нас з мамай сталі запіхваць у джып.

Дзяўчына распавяла, што моцна спалохалася, пачала задыхацца, страціла прытомнасць.

— Калі я прыйшла ў сябе, нас ужо перагружалі ў іншую машыну, у мікрааўтобус. Людзі былі ў масках, чорнай вопратцы, але я не бачыла ні значка міліцыі, ні знака АМАПУ. Потым нас прывезлі ў РУУС і сталі аглядаць, абшукваць.

Падобным чынам апісвалі ў судзе сваё затрыманне і бацькі дзяўчыны.

— Мы ненадоўга апынуліся на вуліцы, мама без шкарпэтак нават выйшла, проста ў ботах. Так, у мяне і мамы з сабой былі ліхтарыкі, але мы жывем у прыватным сектары — у нас цёмна, так што мы часта ходзім з ліхтарыкамі.

У пратаколе адзначаецца, што затрыманыя аказвалі супраціў: «хапаліся за форменнае абмундзіраванне», «упіраліся нагамі».

Адным са сведкаў у судах над сям'ёй быў міліцыянт з Савецкага РУУС. Паводле яго слоў, сілавікі прыехалі, таму што на вуліцы Леаніда Бяды праходзіла несанкцыянаванае масавае мерапрыемства. Маўляў, была група «ад 10 да 20 чалавек», якія разбегліся па дварах. Супрацоўнік міліцыі дадаў, што ў затрыманні не ўдзельнічаў, але быў на месцы, у міліцэйскай форме.

— У Мінску цяпер забаронена па вуліцах хадзіць з ліхтарыкамі? Вядома, гэта сітуацыя чаканая, асабліва з улікам таго, што цяпер адбываецца ў Беларусі, але неяк ужо занадта шмат пытанняў. Мы да апошняга спадзяваліся на лепшы зыход гэтага непаразумення. І, вядома, рашэнне суда шакавала. Да гэтага часу не верыцца, — кажа Раман.

**Паводле TUT.BY**

# «Цісну рукі, абдымаю і веру ў хуткае вызваленне!»

**Амаль дзве сотні лепшых грамадзян Беларусі сёння за кратамі. Хтосьці яшчэ чакае суда, хтосьці ўжо атрымаў тэрміны па абсурдных абвінавачваннях. Ліставанне з імі ідзе з перашкодамі, таму блізкія людзі палітвязняў пішуць ім адкрытыя лісты ў газету.**

## Вольга Бабкова: «Вытрымаем і будзем зноў разам»

— Юлечка, наш горад завалiла снегам. Напэўна ты чуеш праз сцены рып фанерных лапат, бо турэмны двор жа, напэўна, чысцяць ад гурбаў… Дарэчы, на



гэты самы двор з вакна сваёй камеры Каміла Марцінкевіч кінула букет кветак пад ногі паўстанца Яна Жмачынскага, калі таго вялі на пакаранне. У 1864 годзе, 5 жніўня (Сашкаў ДН!). Увогуле, хто толькі не сядзеў тут, у Пішчалаўскім гатычным замку… Ведаеш, нават нескароная Ларыса Геніюш.

Апошнім часам згадваю агульныя з табой вялікія і маленькія гісторыі. Памятаеш, як наша шчыльнае сяброўства пачалося на Вайсковых могілках, пасля экскурсіі Анатоля Цітова. Хадзілі пасля доўга паміж старых дрэваў і помнікаў, размаўлялі, Мандэльштама чыталі. Нават памятаю: «И море, и Гомер — все движется любовью. Кого же слушать мне? И вот Гомер молчит, И море черное, витийствуя, шумит, И с тяжким грохотом подходит к изголовью». Табе было 18, а мне — 20. А ўчора гісторыка і геральдыста Анатолія Цітова пахавалі…

Памятаю і нашае Чорнае і Мінскае мора. Усё-ўсё.

Я напісала табе пяць лістоў, але ведаю, што ніводнага ты не атрымала ані ад Сашаў тваіх цудоўных, ані ад мяне. Вельмі спадзяюся, што ты ўсіх нас чуеш, бо чуйная, мудрая і адкрытая свету, дарагая мая Юля!

Цяпер перажываем такія часы, калі воляй-няволяй пазбаўляешся ўсяго лішняга — найперш ілюзій. А іх насамрэч — цэлы воз. Праўда, хаця яны і нібы «лёгкія», але чаплючыя і тычацца найперш людзей. І сама пра сябе таксама шмат даведваешся.

Вельмі хацелася б перадаваць табе кнігі, я ўжо тут горачку падабрала, але ж даведалася, што, халера, нельга. Спакойна такія рэчы цяжка прымаць. Часта ад роспачы і доўгай беспакаранасці зла — трасуцца рукі. Але ж, Юлька, вытрымаем і будзем зноў разам!

Так хочацца пасядзець з табой у Аўстэрыі Уршулі каля вакна, выпіць кавы і з'есці (пасля дзікіх згрызотаў)) кавалачак штрудзеля ці лімоннага пірага. Пасля ўзяцца за рукі і кружляць па Аляксандраўскім скверы, і пасля ніжэй — да парка Горкага, дзе прайшло тваё дзяцінства (і тваёго Сашы таксама).

Горад наш як бы сцяўся/заціяўся (цяпер пад снегам, раней пад дажджом). Нібы чакае, нібы перачэквае, каб пасля развінуцца, вярнуцца, загучаць…

У кожным лісце да цябе, я запісваю верш (і нумарую яго, каб ты ведала, колькі было лістоў). І зараз таксама хачу скончыць гэты незвычайны па спосабе перадачы ліст вершам Алега Мінкіна:

*Я сніў, што дождж зацяты перасціх,*
*І промень коса ўпаў на горад мокры*
*І заблішчэў на лужынах, на вокнах,*
*На дахах, на асфальце, на лісці.*

*І там, дзе панавала кагадзе*
*Здранцвенне, — там завесы зарыпелі,*
*І горад змрочны зарыпеў ад белі,*
*Святочных шатаў выбеглых людзей.*

*І з кожнай вулкі, кожнага двара,*
*Я чуў іх смех і плакаў сам ад шчасця,*
*А недзе спеў забыты нараджаўся…*
*У тую ноч мне сніўся вольны край.*

Я цябе вельмі люблю і сумую па табе, Юлечка!

## Аляксандра Слуцкая: «Я так ганаруся табой!»

— Матуля! Як жа моцна я цябе люблю, і як жа моцна хачу абняць цябе. Калі ты выйдзеш адтуль — я сяду ля тваіх ног, абдыму калені, і буду сядзець, удыхаць твой пах, такі родны і ўлюбёны, перабіраць твае тонкія пальцы. Буду сядзець столькі, колькі ты дазволіш.

Ведаю, што ты вельмі моцная! Я таксама моцная, бо я



— твая дачка. Ты сказала мне, што я — тваё адважнае львяня. Дзякуй табе за гэта. Так, я тваё адважнае львяня. Таму што ты — мая маці-львіца. Я так ганаруся табой, любімая!

31 снежня з намі, вяршакамі, адбыўся навагодні цуд: мы ўсе атрымалі падарункі ад цябе. Ты такая чароўная, што змагла павіншаваць нас нават адтуль. Не хвалюйся за нас, калі ласка! У мяне тут усё пад кантролем. Тата, бабуля, і, вядома ж, Пеця. Пеця зусім побач з табой — у 63-й камеры. З ім яшчэ 14 чалавек. Абстаноўка там таварыская, рабяты добрыя. Бадзёры. Нават жартуе, што выспаўся ўпершыню за шмат гадоў. Я вельмі, вельмі люблю вас — цябе і Пецю! Хутка вы будзеце дома, з намі. Да вельмі хуткай сустрэчы.

## Юлія Якубіцкая: «Каб нам не згубіцца, пішу табе кожны дзень»

— Прывітанне, мой дарагі, маё сонца і зоркі (як выдатна, што за пару дзён да ўсяго паспелі даглядзець гэты серыял).

Прайшоў яшчэ адзін дзень без цябе.

Пішу і п'ю какаву са згушчонкай, якую ў мяне не ўзялі ў акне перадач. Вось так бы наўрад ці сабе яе купіла, а тут прам тры пакункі. Так у мяне з'явіліся



яшчэ ківі, бананы і сухое малако (вось з гэтым пакуль не ведаю, што рабіць).

Гляджу ў акно і бачу самую сапраўдную зіму, такую, як ты любіш, казачную. Памятаеш, як мы думалі ў пачатку снежня, што, як толькі выпадзе снег, паедзем на экасцежку да блакітных азёраў і будзем там шукаць сляды звяроў і птушак. Ну нічога, у наступны раз абавязкова!

Нашы тры цмокі адчуваюць сябе лепш за ўсіх. Калі ўжо я вырашыла не адзначаць дзень нараджэння, замест сукенкі, кожнаму набыла домік. Няхай у іх хоць будзе свята. Рыжык ужо ўліўся ў калектыў, хутчэй, чым ты думаў. І калі ўжо хто каго ганяе, дык не Ухура Рыжыка, а Віня. Вельмі супярэчлівая кошка.

Як ты там? Як праходзіць твой дзень? Ці хапае ўсяго? Не захварэў? Дайшоў хоць адзін з дзясятка маіх лістоў?

А я, а як я? Мне трэба вучыцца наноў думаць пра сябе. Цяпер больш пра цябе неяк. Вось гэта звыкла стала. І хочацца менавіта так. Калі ў цябе забіраюць лепшую частку, ты неяк функцыянуеш, але вось менавіта неяк. Як кажуць, калі твой самы блізкі чалавек за кратамі, то нейкая частка цябе таксама сядзіць з ім. Гэта так.

Кожны дзень прачынаюся і засынаю з думкамі пра цябе. Уяўляю цябе і кажу «Добрай раніцы, Пеця», «Дабранач, каток». Уяўляю цябе побач, калі нешта раблю. Запісваю, што трэба будзе табе паказаць, распавесці. Ты вернешся, мы з катамі цябе аблепім, будзем вурчэць і распавядаць, распавядаць, распавядаць.

Паўсядзённая руціна ратуе, як ніколі. І нарэшце мая любоў да спісаў спатрэбілася ў поўнай меры. Спіс з рэчамі, спіс з ежай, спіс з лекамі, што перадала, а што яшчэ трэба перадаць. Мой запал упарадкоўваць усё вакол ратуе лепш снатворнага.

На днях ішла па вуліцы і нечакана ўклінілася ў сварку незнаёмай пары. Злавіла сябе на думцы, што зайздрошчу таму, што яны могуць сварыцца. Яны бачаць адно аднаго, дакранаюцца, чуюць голас адзін аднаго. Мне здаецца наш досвед, гэта вакцына ад сварак у будучыні. Як казала адна добрая жанчына ў навагоднюю ноч, «таму што каханне падчас рэвалюцыі — гэта каханне на ўсе жыццё». Мне спадабалася. Цяпер як ніколі адчуваецца гэта наша «мы», мы разам, мы каманда, проста не бачымся.

Я цябе вельмі кахаю, Пятро. Каб нам не згубіцца, пішу табе кожны дзень. А раптам нешта ды дойдзе. Ну ці пачне даходзіць. Часта ўспамінаю, як шмат класных і смешных мы пражылі дзён разам. І гляджу нашы відэаблогі. Вось усё-такі добрая была ідэя іх рабіць. Хоць магу пачуць такі родны і жаданы голас. Праўда, дваццаціхвілiннае відэа, дзе мы вудзім рыбу, не зусім пра гэта.

А я зараз працягну збіраць жураўлікаў. Ты ж памятаеш тую легенду, калі загадаць жаданне і сабраць 1000 жураўлікаў, то яно абавязкова адбудзецца. А ў мяне цяпер ёсць адно самае запаветнае жаданне.

P.S. Тата твой і бабуля вялікія малайцы! Добра трымаюцца, мы тэлефануем адно аднаму кожны дзень, падтрымліваем адно аднаго (як сказаў Глеб: «Стрэсавая інтэграцыя ў сям'ю»). Яны перадаюць табе прывітанні і чакаюць вас з мамай мацней за ўсё на свеце.

## Мікола Шакель: «Я адчуваю, што мы заўсёды разам»

— Вітаю, родная! Кожны вечар сядаю і пішу табе лісты. Ведаю, што, прынамсі, адзін ты ўжо атрымала. А я сёння атрымаў твой першы ліст! Дакладней, адразу другі (першы і паштоўкі пакуль не прыйшлі). Ведаю, што ты шмат пішаш таксама.

Ужо больш за 20 дзён мы не побач. Шмат хто ганіць 2020 год за тое, колькі бяды ён прынёс. Але я і ўдзячны яму — прынамсі, за тое, як шмат часу мы праводзілі разам (вялікі плюс дыстанцыйнай працы). І хоць мы цяпер не побач, я адчуваю, што мы заўсёды разам. Кожную хвіліну думаю пра цябе, радуюся кожнай найдрабнейшай вестачцы пра цябе. Збіраю і нашу перадачы, бо, пакуль амаль не ходзяць лісты, гэта



яшчэ і спосаб сказаць табе: я тут, вельмі блізка, я з табой.

Ты — маё Каханне і Жыццё. Памятаеш «нашу песню»? «Хто мы такія? Толькі падарожныя, папутнікі сярод нябёс». Нябёсы далі мне такую папутніцу ў жыцці, з якой не страшныя ніякія звадкі, боль і горыч. Адно што вельмі турбуюся за тваё здароўе. Калі ласка, беражы сябе.

...Дзеці перадаюць табе вітанні і падтрымку. Яны ў парадку. Родныя таксама — з імі я пастаянна на сувязі. Не турбуйся пра нас. Каб ты ведала, колькі сяброў і добрых людзей адгукнулася: пішуць табе лісты, прапаноўваюць падтрымку! Я ўсім сэрцам удзячны кожнаму, хто падтрымлівае словам і справай у гэты складаны час. І ўдзячны «Новаму Часу» за магчымасць сказаць гэта.

Моцна-моцна абдымаю. Кахаю цябе. Чакаю на волі. Веру, што мы вельмі хутка будзем разам.

І яшчэ. Юлія Слуцкая. Сяргей Альшэўскі. Пятро Слуцкі. Я ўдзячны лёсу, што знаёмы з Вамі — такімі моцнымі і светлымі людзьмі. Трымайцеся. Цісну рукі, абдымаю і веру ў хуткае вызваленне!

**Для даведкі:**

У беларускі Прэс-клуб 22 снежня прыйшлі сілавікі. У офісе і дома ў супрацоўнікаў прайшліператрусы ці агляды. У той дзень затрымалі кіраўніцу праекта Юлію Слуцкую, праграмнага дырэктара Алу Шарко, фінансавага дырэктара Сяргея Альшэўскага, кіраўніка Акадэміі Прэс-клуба Сяргея Якупава, аператара Пятра Слуцкага, а таксама былую журналістку БТ Ксенію Луцкіну. 31 снежня ім прад'явілі абвінавачванне. Юлію Слуцкую абвінавацілі ва ўхіленні ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры, Алу Шарко, Сяргея Альшэўскага, Пятра Слуцкага, Ксенію Луцкіну — у саўдзеле ў злачынстве. Сяргея Якупава, грамадзяніна Расіі, вызвалілі з СІЗА і выслалі з краіны з забаронай на ўезд у бліжэйшыя дзесяць гадоў.

Цяпер Юлія Слуцкая, Ала Шарко, Сяргей Альшэўскі, Пётр Слуцкі і Ксенія Луцкіна знаходзяцца ў СІЗА № 1 на вуліцы Валадарскага.

**а** | Азбука паліталогіі

# Пару слоў пра галоўнае



Сяргей НІКАЛЮК

**Пачынаць новае жыццё працсей за ўсё з 1 студзеня: прачнуўся, зрабіў зарадку, прыняў кантрасны душ і... перагарнуў старонку мінулага. І як пасля гэтага не абвясціць 2021-ы Годам народнага адзінства?**





Яшчэ жывы класік неяк адзначыў, «што ідэя, кінутая ў масы, — гэта дзеўка, кінутая ў полк». Справядлівасць такога неардынарнага параўнання пацвярджае пошукавік газеты «СБ. Беларусь сегодня», якая апублікавала за першыя сем дзён 2021 года 15 артыкулаў з абгрунтаваннем актуальнасці і своечасовасці чарговай палітычнай інавацыі.

Сярод аўтараў — Вадзім Гігін, дэкан факультэта філасофіі і сацыяльных навук БДУ. Яму я і даю слова: «Крызіс, які мы перажылі ў 2020 г., патрабуе сур'ёзнага асэнсавання, а нашаму грамадству неабходна нацыянальнае прымірэнне. Таму цяпер такая важная ідэя пра год народнага адзінства».

Свае надзеі Гігін ускладае на Усебеларускі народны сход. Сам факт яго склікання «ў адказны гістарычны момант» — надзвычай важны, бо «народнае адзінства, грамадскі мір і згода патрабуюць вялікай сумеснай працы» — як прыхільнікаў, так апанентаў адзінага палітыка (АП).

Вось такі ў БДУ дэкан факультэта філасофіі і сацыяльных навук! Насуперак афіцыйнай ідэалогіі, ён уключае ў паняцце «народ» не толькі патрыётаў-дзяржаўнікаў, але і «пратэстуноў»! Калі б я ўжываў алкаголь, паспрачаўся б на скрыню каньяку, што ніводнага апанента АП сярод дэлегатаў маючага адбыцца «народнага веча» не будзе.

### Мы будавалі, будавалі...

Новае жыццё варта пачынаць не толькі з кантраснага душа і зарадкі, але і з рэальнай ацэнкі дасягнутых вынікаў. Як, напрыклад, гэта зрабіў 6 студзеня таварыш Кім Чэн Ын у вітальнай прамове на з'ездзе Працоўнай партыі Карэі: «Задачы развіцця нашай гаспадаркі, што былі пастаўленыя ў цяперашнім пяцігадовым плане, мы не дасягнулі практычна ні на адным кірунку».

Далей яшчэ цікавей: «Мы павінны смела прызнаць свае недахопы і выпрацаваць новую палітыку. Барацьба за аднаўленне і развіццё нашай краіны і шчасце народа ўступае ў новы этап».

Карэйская Народна-Дэмакратычная Рэспубліка, нагадаю, была ўтвораная ў верасні 1948 года — і вось ужо восьмы дзясятак гадоў яна ідзе сваім шляхам пад кіраўніцтвам бацькі, сына і ўнука з сямейства Кімаў. Важным вынікам паўночнакарэйскай самабытнасці стала прызнанне ўнука пра неабходнасць... аднаўлення краіны. Мы будавалі, будавалі — і нарэшце пабудавалі тое, што мае патрэбу ў аднаўленні!

Галоўнаму архітэктару беларускай мадэлі да падобнага прызнання яшчэ далёка. Пра тое, што патрэбна новая палітыка, ён не выказвецца — ва ўсялякім разе, публічна. Зрэшты, за 26 апошніх гадоў наш адзіны палітык і ў схільнасці прызнаваць недахопы сваёй працы заўважаны не быў.

Адкрываю перадвыбарчую праграму ўзору 2015 года. І тут амаль кожны абзац варты таго, каб быць працытаваным. Абмяжуюся адным, абраным выпадкова: «Усе паралічаныя меры ў сукупнасці забяспечаць нашай краіне новы эканамічны прарыў за кошт спалучэння эфектыўнага дзяржаўнага кіравання, прыватнай ініцыятывы і добрасумленнай працы нашых людзей».

А што па факце? Сярэднегадавы індэкс валавога ўнутранага прадукту за пяць гадоў склаў 100,7%! Гэта многа ці мала? Пытанне філасофскае. Нашы тэмпы эканамічнага росту саступалі сусветным амаль у пяць разоў. Гэта многа ці мала? Яшчэ адно філасофскае пытанне...

На новы эканамічны прарыў у 100,7% прэтэндаваць, бышцам бы, шанцаў няма. Але хто сказаў, што нашы тэмпы росту варта параўноўваць з сусветнымі? А давайце параўнаем нашы з нашымі — і ў якасці прыкладу для параўнання звернемся да «ліхіх 90-х».

За першыд засілля нацыяналістаў ва ўладзе (1991–1995) сярэднегадавы індэкс ВУП склаў 91,9%. Адчуваеце розніцу? Пры нацыяналістах эканоміка падала. Пры АП яна расце. Вось толькі не зусім зразумела, пры чым тут АП. Але ці ёсць сэнс тлуміць сабе галаву з такой нязначнай нагоды?

### Каханую не аддаюць

Яшчэ адно выказванне АП: «Я хачу, каб у краіне было ціха і спакойна. Напэўна, вы і самі гэтага хочаце. Калі вам не падабаецца цяперашні прэзідэнт, то толькі выбары могуць вырашыць гэтае пытанне. Толькі выбары. Я гэта кажу, як бы камусьці не падабалася».

Адкуль такія асцярогі наконт «падабаецца» / «не падабаецца»? Сярод маіх знаёмых, напрыклад, няма ні аднаго, каму б не падабаліся выбары. Але адначасова я не ведаю нікога, каму б пасля 1996 года пашчасціла прыняць удзел у «выбарах».

Праілюструю гэты парадокс на ўласным прыкладзе. За два тыдні да 9 жніўня я накіраваў у Лявада-цэнтр артыкул *«Беларусь накануне шестого переутверждения Лукашенко»*. Уяўляеце ўзровень майго прадбачання!? За два тыдні! Яшчэ і папярэдняе галасаванне не пачалося, а я — наваяўлены нікому не вядомы Настрадамус, — у самы аўтарытэтны сацыялагічны часопіс «нашай Расіі» накіраваў артыкул пра перапрызначэнне нашага АП. І вы не паверыце — мой артыкул прынялі.

Выбары — гэта амаль заўсёды латарэя. Хто ў Амерыцы — і не за два тыдні да пачатку галасавання, а за гадзіну да закрыцця выбарчых участкаў — узяўся б прадказаць іх вынік? Гаворка, зразумела, не пра дылетантаў, а пра сур'ёзных экспертаў.

Выбары — амаль заўсёды латарэя. Божы дар, аднак, не варта блытаць з яечняй. Патлумачыць розніцу я паспрабую з дапамогай палітолага Рыгора Голасава: «У электаральных аўтарытарызмах некаторыя элементы ліберальнай дэмакратыі (парламент, партыі і выбары) выкарыстоўваюцца не па прамым прызначэнні — для змены ўлады, а зусім наадварот — для таго, каб гэту змену ўлады выключыць».

Каханую не аддаюць. «Хто мае вушы, хай пачуе» (Евангелле ад Матфея 13:15.). Спасылкі на сапраўднае размеркаванне галасоў тут недарэчныя, бо што ёсць ісціна?

Аднак калі грэбаванне размеркаваннем галасоў заходзіць занадта далёка, то ўзнікаюць праблемы з тым, што ў паліталогіі прынята называць «легітымнасцю».

### Пра дэфіцыт разумення

Легітымнасць — згода грамадства на падпарадкаванне існуючай эліце і ўладзе. Прынцыпы легітымнасці могуць мець вытокі ў старажытных традыцыях, рэвалюцыйнай харызме або ў дзеючым заканадаўстве.

Казаць пра старажытныя традыцыі сёння не даводзіцца. З рэвалюцыйнай харызмай не ўсё так адназначна. Аўтар мема «ліміт рэвалюцый у Беларусі вычарпаны» ў 1994 годзе прыйшоў да ўлады на рэвалюцыйнай хвалі. Харызмай — у адрозненне ад большасці сваіх супернікаў — ён, безумоўна, валодаў.

Але падтрымліваць легітымнасць выключна за кошт харызмы — задача архіскладаная, тым больш у грамадстве, у якім ад любові да нянавісці адзін крок. Адна справа, калі эканоміка дадае больш за 7% у год, і зусім іншае — калі нават штатным спецыялістам патрэбная цэйсаўская оптыка для фіксацыі поспехаў. У апошнім выпадку аказацца ў становішчы Акелы, які прамахнуўся, — толькі пытанне часу.

Легітымнасць — згода грамадства на падпарадкаванне існуючай эліце і ўладзе. Калі яна ёсць у наяўнасці — звяртацца па дапамогу да сілавікоў, каб утрымаць уладу, патрэбы не будзе. Пацверджанне гэтай азбукавай паліталагічнай ісціны пасля 9 жніўня беларусы маюць магчымасць назіраць практычна штодня.

З той жа оперы — шматлікія страшылкі. Апошняя (на момант напісання гэтага тэксту) была агучаная ў храме Узвышэння Святога Крыжа 7 студзеня: «Нам спакойнага жыцця не дадуць. Нам свабодна дыхаць ніхто не дазволіць, у цэнтры Еўропы. Гэта сутычка. І не дай Бог нам ператворыцца ў гарачую вайну на гэтай нашай тэрыторыі, але дзе не будуць вырашацца нашы пытанні, дзе не будзе нашых інтарэсаў. Вось гэтага дапусціць нельга. Гэта — галоўнае. І я вас прашу пра адно: каб з вашага боку было разуменне».

З апошнім сказам цяжка не пагадзіцца. Разуменне — гэта якраз тое, што сёння ў дэфіцыце. На яго пераадоленне і накіроўвае свае намаганні аўтар «Азбукі паліталогіі».

***

Пры ўсёй своеасаблівасці беларускай мадэлі, яна фарміруецца не без уплыву мэйнстрыму, што, у прыватнасці, выяўляецца ў тым, што расце попыт на легітымнасць, заснаваную на выкананні законаў, на працэдурах, прапісаных у Канстытуцыі.

Маладое пакаленне цяпер не захапіць ідэяй «дзяржавай для народа». Яны яе ўспрымаюць у якасці сучаснага варыянту пацёмкінскай вёскі. Маладое пакаленне 9 жніўня прад'явіла попыт на «дзяржаву народа», у якой народ з'яўляецца не аб'ектам маніпуляцый, а паўнавартасным суб'ектам палітыкі.

**Адкуль такія асцярогі наконт «падабаецца» / «не падабаецца»? Сярод маіх знаёмых, напрыклад, няма ні аднаго, каму б не падабаліся выбары. Але адначасова я не ведаю нікога, каму б пасля 1996 года пашчасціла прыняць удзел у «выбарах»**

# Што будзе пасля Лукашэнкі?

Сяргей ПУЛЬША

**У пераднавагодні і калядны час у нашых суседзяў з'явіліся змрочныя прагнозы пра будучыню Беларусі.**

Украінцы бядуюць, што Беларусь не зможа хутка развярнуцца на Захад з-за ўплыву Расіі, «нават калі Лукашэнку заменіць на пасадзе іншы лідар». Расійскі эканаміст Міхаіл Дзялягін прарочыць, што пасля Лукашэнкі да ўлады ў Беларусі прыйдзе «ліберальны адмарозак», і цягам пяці гадоў краіна будзе разрабаваная, а ў Беларусі застанецца палова насельніцтва, — астатнія збягуць або сап'юцца.

Пры гэтым неяк мала прагнозаў саміх беларусаў: як ім бачыцца будучыня краіны без Лукашэнкі?

Цяпер — сняткі, час варажбы, і чаму б не ўключыць фантазію? Дапусцім, здарыцца неверагоднае (а апошнім часам мы бачылі шмат неверагоднага), і на Усебеларускім сходзе дэлегаты скажуць Лукашэнку: «Сыходзь!». І ён раптам сыдзе. А што далей?



Фота www.sonnikved.ru

## Пакручасты шлях да дэмакратыі

Палітолаг Аляксандр Класкоўскі лічыць, што такога лёгкага шляху да зрынання Лукашэнкі ў нас не будзе. І засцерагае ад залішне аптымістычных думак, кшталту: «яшчэ адзін удар — і рэжым развaліцца». «Рэзерв трываласці ў яго ёсць: Лукашэнка паказаў, што ў XXI стагоддзі такі прымітыўны чыннік, як страх, — працуе. З аднаго боку, ён застрашыў вертыкаль і сілавікоў, што "вас будуць вешаць на дрэвах, калі ўлада зменіцца", з іншага — застрашвае людзей. Такога маштабу рэпрэсій не было з часоў нацысцкай акупацыі», — кажа Класкоўскі.

Але перамены ўсё роўна надыдуць. «Магчыма, не будзе перамогі дэмакратыі, не ўедзе Святлана Ціханоўская на белым кані ў Беларусь, у Палац Рэспублікі, а будзе нейкі гібрыдны варыянт транзіту ўлады. Але калі ўявіць сабе, што да ўлады прыходзіць нават чалавек з цяперашняй наменклатуры — усё адно ён мусіць пайсці на дыялог з грамадствам, на рэформы. Такой жорсткай дыктатуры, як пры Лукашэнку, не будзе», — кажа Класкоўскі.

Пры гэтым, на яго меркаванне, беларускае грамадства наўрад ці прагаласуе за нейкага новага папуліста: «Мне, як і іншымі аналітыкам, здаецца, што народ атрымаў вельмі моцную прышчэпку ад аўтарытарызму і настроены на тое, каб абраць дэмакратычную ўладу, стварыць празрысты механізм выбараў... У перспектыве ёсць добрыя шанцы адбудаваць сучасную дзяржаву з еўрапейскімі стандартамі і матэрыяльнага, і дэмакратычнага палітычнага кшталту. Іншая рэч, што гэта справа няблізкая, і шлях да яе ляжыць праз драматычную барацьбу».

«Лукашэнкі–2 не будзе менавіта з той прычыны, што беларускае грамадства перарасло сваю ўладу», — кажа Класкоўскі. Ён зазначае, што пратэст–2020 мае адметнасць: людзі выйшлі цяпер «не за каўбасу, а за свабоду». «Яны не толькі хочуць лепшага дабрабыту, а хочуць банальна абіраць уладу», — зазначае палітолаг.

«Грамадства не прымае гэтую ўладу, не прымае дыктатуру, не прымае жорсткі аўтарытарызм, і таму, якія б схемы б тут ні імкнуліся той жа Крэмль альбо атачэнне Лукашэнкі, якое, я думаю, таксама прыкідвае нейкія планы на постлукашэнкаўскую перспектыву, — усё адно гэтыя гульцы павінны ўлічваць настрой грамадства і рабіць нейкія пераўтварэнні. Яшчэ раз падкрэслю — наўрад ці адразу будзе сямімільны крок з дыктатуры ў царства поўнай свабоды, у дэмакратычны рай, але тое, што дэмакратычны працэс будзе запушчаны, і што будуць прагрэсіўныя змены ў эканамічным і палітычным жыцці — гэта для мяне відавочна».

На яго думку, для беларускай дэмакратыі ёсць яшчэ адна праблема — чыннік Расіі. Пры ўсім, зазначае палітолаг, Масква застаецца імперыяй. Для яе важна, каб у Беларусі не гарэў рэвалюцыйны пажар, і каб яна заставалася падкантрольнай Крамлю, зонай яго стратэгічных інтарэсаў. Калі беларускі крызіс раптам набудзе маштабы грамадзянскай вайны, ад Крамля можна чакаць усялякага, у тым ліку і нейкай формы вайсковай экспансіі. Таму тыя, хто змагаецца за перамены, мусяць улічваць дзве небяспекі — рэжыму Лукашэнкі і расійскі імперыялізм, лічыць адмыслоўца.

## «Не бачу рэалістычных дрэнных сцэнараў для Беларусі»

Публіцыст і заснавальнік «Моцных навінаў» Пётр Кузняцоў больш аптымістычны. На яго думку, сцэнары развіцця Беларусі залежаць ад таго, якім чынам сыдзе Лукашэнка. Ці ён сыдзе пад ціскам народа, ці пад ціскам знешніх фактараў, ці адбудзецца наменклатурны пераварот. Хто ў выніку прыйдзе да ўлады — той і будзе вызначаць павестку пераменаў і рэформаў. Аднак — у любым выпадку — змены здарацца, і гэтыя змены будуць да лепшага.

«У любым выпадку — будзе лепш. З'явіцца больш законнасці, больш рэальнага парадку. Будзе нейкі пераходны перыяд, у час якога сфарміруюцца органы ўлады і кіравання, і ў іх яўна ўключаць больш прадстаўнікоў розных груп, якія пачнуць улічваць інтарэсы розных груп. Ва ўмовах, калі з'явіцца больш павагі да закону і стане лепшай правапрымяняльная практыка, у Беларусі ёсць усе шанцы проста рвануць наперад — з улікам той адкладзенай, стваральнай крэатыўнай энергіі, якая назапасілася ў грамадстве. Яе вельмі і вельмі багата, а цяпер яна проста не рэалізуецца, бо існуючы стан рэчаў яе рэалізацыі не тое што не дапамагае, а нават і перашкаджае», — лічыць Кузняцоў.

Наконт знешняй палітыкі і ўплыву Расіі Кузняцоў мяркуе, што гэта — пытанне сярэднетэрміновай перспектывы. «Я практычна не сумняваюся, што сёння ў Беларусі не знойдзецца палітычнай сілы, якая, па-першае, захоча і будзе мець дастаткова палітычнай волі, па-другое, здолее пераканаць беларусаў, што нам трэба рэзка некуды зварочваць», — кажа эксперт.

**«Наўрад ці адразу будзе сямімільны крок з дыктатуры ў царства поўнай свабоды, у дэмакратычны рай, але тое, што дэмакратычны працэс будзе запушчаны — гэта відавочна»**

Кузняцоў разлічвае, што Беларусь без Лукашэнкі пачне праводзіць нейтральную і дастаткова ўзважаную знешнюю палітыку — кшталту, як Фінляндыя. Гэта будзе «ўзважаная палітыка, якая стане базавацца на кансэнсусах адносна таго, што новая Беларусь ні ў якой ступені не павінна несці небяспеку альбо пагрозу інтарэсам Расійскай Федэрацыі, і апрыёры будзе больш адкрытая для адносін з Захадам. Гэткая нейтральная цэнтрысцкая палітыка», — зазначае Кузняцоў.

## «Будзем жыць дрэнна, але нядоўга»

Што тычыцца эканомікі, то эканаміст, прафесар Барыс Жаліба заклікае зняць ружовыя акуляры і рыхтавацца да цяжкасцяў. «Эканоміка Беларусі запушчаная, яна хворая камандна-адміністрацыйнай сістэмай, усе важныя пастановы прымаў толькі адзін чалавек, і часцяком яны былі не вельмі правільныя», — тлумачыць ён.

Эканоміка, па словах Жалібы, патрабуе рэформаў даўно, але стаўленне да рэформаў у Лукашэнкі вядомае: «Не трэба нічога рэфармаваць, трэба ўдасканальваць тое, што ёсць». «Вось мы і даўдасканальваліся, што ўзровень жыцця насельніцтва знізіўся да крытычнай адзнакі», — канстатуе эксперт.

Прычым, праводзіць эканамічныя рэформы давядзецца незалежна ад таго, хто прыйдзе да ўлады, — «прарасійская сіла», «пераемнік Лукашэнкі» ці дэмакратычна настроены ўрад. І ўжо ў залежнасці ад тых сілаў, якія прыйдуць на змену цяперашняй уладзе, будзе залежаць тое, наколькі хуткімі і наколькі балючымі будуць рэформы.

Па меркаванні эканаміста, новаму ўраду трэба будзе вельмі тонка вытрымліваць баланс інтарэсаў і праводзіць вельмі гнуткую міжнародную палітыку. «Калі прыйдзе дэмакратычны ўрад, то наш вектар падтрымкі зменіцца з усходняга на заходні: як я разумею, менавіта гэта прадугледжвае "План Маршала для Беларусі", што распрацоўваецца некаторымі заходнімі краінамі. Трэба спадзявацца, што заходнія краіны падтрымаюць новыя беларускія ўлады крэдытамі, грантамі і бязвыплатнай дапамогай. Але як на гэта будзе глядзець Расія? Ад яе адварочвацца нельга. Палова эканомікі, знешні тавараабарот завязаны на расійскі рынак — і ад гэтага нікуды не сыдзеш. Трэба жыць па-суседску і з Расіяй, і з Захадам, і з Поўднем, і з Поўначчу», — кажа Жаліба.

Таму маральна і псіхалагічна трэба рыхтавацца да таго, што будзе цяжка. Але — часова. «Палякі ў 1990-х гадах перажылі шок, але выйшлі на правільную рынкавую і дэмакратычную дарогу», — зазначае эксперт. Прыкладна такі ж шлях павінна прайсці і Беларусь.

## «Эфект ад рэформ адчуем праз паўтара-два гады»

Эканаміст Леў Марголін лічыць уяўленне пра «шокавыя рэформы» значна перабольшаным. Але пачынае з палітыкі. «Пасля сыходу Лукашэнкі адбудуцца сумленныя і свабодныя выбары. І хто бы ні прыйшоў да ўлады, ён не зможа праводзіць палітыку, падобную да палітыкі Лукашэнкі — яму давядзецца лічыцца з меркаваннем народа. А народ у нас ужо рынкава арыентаваны», — кажа ён.

Па яго словах, у эканамічнай экспертнай супольнасці выпрацаваны «ўстойлівы кансэнсус» па тым, якія пераўтварэнні трэба праводзіць. Найперш, не будзе «абвальнай прыватызацыі», — яна, канешне, адбудзецца, але толькі ў дачыненні да стратных прадпрыемстваў. «Ужо падлічана, што лепш плаціць нармальную дапамогу па беспрацоўі, чым утрымліваць гэтыя прадпрыемствы на субсідыях, купляць сыравіну, матэрыялы, энергію, а іх прадукцыя потым пыліцца на складах», — распавядае эканаміст.

Нават калі беспрацоўе дасягне неверагоднай лічбы ў мільён беларусаў, кажа Марголін, і кожнаму выплачваць 200 долараў дапамогі ў месяц, за год атрымаецца 2,5 мільярда долараў — гэта тая сума, якую мы штогод атрымліваем у якасці падтрымкі ад Расіі, але бяздарна праядаем. Але наўрад ці ў Беларусі будзе мільён беспрацоўных.

Здымуць штучныя перашкоды для малога і сярэдняга бізнесу, кшталту абмежавання на наём працоўных. Будзе адменена рэгуляванне цэнаў на «сацыяльна значныя тавары», і ёсць усе шанцы, што кошты не павысяцца, а панізяцца. Той жа цукар у Расію мы прадаём па 55 капеек за кілаграм, а ў нашых крамах за кошт рэгулявання ён каштуе больш за паўтара рублі... Канешне ж, па словах Марголіна, рэформы пры сучасным стане эканомікі будуць дастаткова доўгія. «Аднак іх першыя станоўчыя вынікі беларусы адчуюць ужо праз паўтара-два гады», — аптымістычна кажа Марголін.

Колькі людзей — столькі меркаванняў. Хтосьці кажа пра доўгі перыяд шляху да дэмакратыі і рынкавай эканомікі, хтосьці больш аптымістычны. Аднак усе сходзяцца ў адным: перамены пасля Лукашэнкі проста непазбежныя. І будуць яны — толькі ў лепшы бок.

# Падпалкоўнік міліцыі: «З былымі

Аксана КОЛБ

**Шлях да сябе сапраўднага пачаўся для фотакора НЧ Дзмітрыя Дзмітрыева не ў жніўні 2020-га. Але менавіта падзеі гэтага года паставілі ўсе кропкі там, дзе трэба. І ўсё тое, што адбылося з падпалкоўнікам міліцыі ў адстаўцы пасля 9 жніўня, канчаткова змяніла яго стаўленне да былых калег.**



Старшы лейтэнант Дзмітрый Дзмітрыеў злева. 1990-я гады

### «Гэта было як у фільмах пра гестапа»

Першы раз Дзмітрыя Дзмітрыева затрымалі на выбарчым участку толькі таму, што ён хацеў даведацца вынікі выбараў. Замест пратаколу галасавання ўбачыў аўтазак і амапаўцаў. Пра тое, што адбывалася з Дзмітрыем і яго сукамернікамі ў тыя страшныя жнівеньскія дні, — у №31 ад 21 жніўня 2020 года.

Дзмітрый адпрацаваў у міліцыі 17 гадоў. Ён кажа, сышоў усяго за тры гады да пенсіі таму, што больш не мог трываць, бо ўжо тады (а звольніўся ён у 2012 годзе) пачынаўся «зашквар».

— Хаця, канечне, такога, што я ўбачыў 9–15 жніўня, не было. Ніколі не было. Гэта было як у фільмах пра гестапа. У ноч на 12-га нам кінулі байкера. Яго з сябрам затрымалі недзе ў Смілавічах. Проста сцягнулі з матацыклаў. Білі і крычалі: «Дзе напалм, дзе выбухоўка?» Сябра звезлі на хуткай. Быў у нас і дзед, якому пераламалі ўсе пальцы. Ён не мог сам ні ўстаць, ні хадзіць, нічога рабіць. Быў хлопец, якога прыцягнулі проста ў майтках… З кожным днём затрыманых білі мацней. Таму мне пашанцавала, што затрымалі 9-га і на выбарчым участку.

— Я думаю, што яны хацелі зрабіць своеасаблівую «антымайданаўскую» прышчэпку, — кажа Дзмітрый. — Яны думалі, што закашмараць іх, тыя парасказваюць сябрам — і ўсе пабаяцца выходзіць на пратэсты. Прычым білі таксама маладыя. Хоць яны і білі ўсе ў масках, але было бачна, што яны маладыя. А побач стаялі афіцэры і назіралі за ўсім. Яны іх натасквалі, так бы мовіць, вучылі…

Безумоўна, перажытае і ўбачанае на Акрэсціна ніколі не будзе забытае, як і не будзе ўжо ранейшым жыццё Дзмітрыя. І яго стасункі з былымі калегамі.

— Я спыніў з імі ўсялякую камунікацыю, бо лічу іх дзеянні здрадай, здрадай іх сумленню, здрадай мне асабіста. Усе яны — не шарагоўцы, займаюць розныя кіруючыя пасады, усё бачаць і ведаюць, усё разумеюць. Але працягваюць аддаваць і выконваць злачынныя загады. Я не хачу больш мець з імі нічога агульнага.

### «Ну што яны ўсё ходзяць, не даюць нам нармальна адпачываць»

У міліцыю Дзмітрый прыйшоў 21-гадовым студэнтам 4 курса Мінскага радыётэхнічнага




Фотакор Дзмітрый Дзмітрыеў у скверы на Акрэсціна. У чаканні чаргі за рэчамі. Жнівень 2020-га




Плошча–2006 вачыма ўсё яшчэ супрацоўніка міліцыі, але ўжо ўдзельніка падзей

інстытута (цяпер БДУІР). Было гэта ў 1995 годзе. Тады МУС узначальваў Юрый Захаранка, чалавек, якога паважалі ўсе — ад шарагоўца да начальніка. Дзмітрый трапіў у інфармацыйную групу ГУУС Мінгарвыканкама, якая займалася стварэннем розных базаў даных, інфармацыйнай бяспекай. Працаваць было цікава. Не мінула хлопца і рамантыка: прага зрабіць свет лепшым шляхам барацьбы са злачыннасцю. Ён заспеў і мог на свае вочы пабачыць працу легендарных операў, якія змагаліся тады са шматлікімі крымінальнымі групоўкамі.

Не мінула Дзмітрыя, аднак, і праца «па ахове грамадскага парадку». У 1996 годзе, падчас Дня Волі, ён быў у рэзерве, калі пачуў загад высунуцца да тэлецэнтра. Тады ён упершыню стаў у міліцэйскую сцэпку. Было страшна, пакуль не прыехалі салдаты ўнутраных войскаў. А ў патасоўцы Дзмітрыю тады адарвалі пагон. Сябры тады жартавалі: можна сказаць, пацярпеў.

— 26 красавіка 1996-га я зноў быў у рэзерве. Але пасля нас накіравалі да праспекта. Нам нават раздалі шчыты і каскі. У раёне цырка на нас пабег натоўп. Было страшна. Пасля людзі спынілі бег і проста пайшлі. Я апусціў забрала, падняў шчыт. У шлеме, дарэчы, нічога не чутно. Ты толькі стаіш і азіраешся па баках. У салдат унутраных войскаў, якія былі побач, тады ў кузаве былі кулямёты. Кіраваў тады імі вядомы ўсім Дзмітрый Паўлічэнка.

---

# «У Польшчы ці Літве сітуацыю не вырашыш.

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Мікалай Бандарэнка заняў актыўную палітычную і грамадзянскую пазіцыю задоўга да жніўня 2020 года. Пасля таго, як сілавікі збілі Мікалая на Плошчы ў 2010 годзе, ён фактычна страціў зрок. Падзеі дзесяцігадовай даўніны сталі для яго своеасаблівай кропкай незвароту.**



### Плошча–2010

— Мне 52 гады, але на выбары ўпершыню я пайшоў толькі ў гэтым жніўні, — адразу пачынае аповед Мікалай Бандарэнка. — Два разы за жыццё я быў незалежным назіральнікам: на мяне складалі пратаколы і выкідвалі з участкаў. Таму я ведаю, што такое выбары ў Беларусі.

Да 2010 года Мікалай актыўна не ўдзельнічаў у палітычным жыцці краіны. Ён тлумачыць гэта тым, што перажываў за жонку і малую дачку. Аднак Плошча ў 2010 годзе цалкам змяніла яго свядомасць.

— Увечары я прыйшоў на Кастрычніцкую плошчу, — узгадвае Мікалай дзень выбараў у 2010 годзе. — Мяне там збілі сілавікі — і выключыўся. Калі апрытомнеў, то быў прышпілены кайданкамі ў аўтобусе.

Там Мікалая збівалі нагамі і дручком: «Выкінулі мяне каля Нямігі. Я не пайшоў дадому, бо баяўся спужаць жонку, таму выправіўся да сваякоў». Яму экстранна зашылі разбітую галаву, пасля Мікалай звярнуўся да лекараў, яму паздымалі швы.

— Усё нібыта стала наладжвацца, — узгадвае Мікалай. — Я вярнуўся да працы: у мяне была кропка ў «Экспабеле».

Аднак у хуткім часе Мікалая стаў турбаваць часты галаўны боль: «Галава балела недзе тры гады. Ціск быў нармальны, але галава балела… Я проста думаў, што гэта наступствы таго збіцця, і ўсё глушыў абязбольваючымі».

### Страта зроку

— У той дзень я быў на працы, як раптоўна, на працягу паўгадзіны я страціў зрок, — узгадвае Мікалай. — Мяне завезлі ў бальніцу. Жонка паехала дадому, каб прывезці неабходныя рэчы, бо на ранак мне прызначылі аперацыю.

Абследаванне паказала, што ў Мікалая было адслаенне і разрыў сятчаткі. Мембрана, якая была на правым воку, пасля збіцця стала расці. У выніку, яна закрыла ўсё вока.

— Практычна год я ляжаў у бальніцы, мне зрабілі тры аперацыі. Яны былі не вельмі ўдалымі: зробяць, праходзіць два тыдні — зноў разрыў сятчаткі. Аднак доктарка сказала, што будзе біцца за мяне да канца. Пасля апошняй аперацыі, калі мяне рыхтавалі на выпіску, з роспаччу спытаў: «Дык што, гэта ўсё?» А мне адказалі, маўляў, я мушу дзякаваць за гэта, бо раней нічога не бачыў, а цяпер бачу абрысы людзей, калідор, сам магу распранацца і апранацца...

Аднак Мікалай змагацца не кінуў, хоць яму і казалі, што мембрана неаперабельная: «Мне сказалі, што калі цяпер я бачу перыферыйным зрокам, то пасля аперацыі наогул не змагу бачыць нічога. Праз год я паехаў у Германію ў афтальмалагічную клініку. На жаль, там таксама мне не дапамаглі».

Зрок на левым воку, якое бачыць абрысы, — мінус 20. Аднак праблема ў тым, што яго немагчыма скарэктаваць з дапамогай акуляраў.

— Пасля гэтага ў мяне з'явілася нейкая злосць, ці што на гэту ўладу. Да 2010 года я стараўся аказваць грашовую дапамогу апазіцыйнаму руху, бо быў звязаны з прадпрымальніцкай дзейнасцю. Пасля — стаў хадзіць бадай на ўсе шэсці, якія толькі былі. Гэта стала маёй прынцыповай пазіцыяй.

Да нязручнасцяў, якія звязаныя з кепскім зрокам, сям'я Мікалая дагэтуль не прывыкла. «Тэарэтычна, я магу нешта згатаваць і сам, але пасля маёй гатоўкі жонцы яшчэ больш працы, — распавядае Мікалай. — Натуральна, што мне не хочацца быць цяжарам. Жонка на мяне сварыцца, калі, напрыклад, я іду па лужынах... Але ж я не бачу, што ў мяне пад нагамі...».

— Нязручнасцяў шмат, але мы ўсё яшчэ прывыкаем, — дадае Вольга, жонка Мікалая.

Хоць Мікалай не бачыць тое, што паказваюць па тэлевізары, аднак адным вокам можа чытаць і глядзець відэа з тэлефона. Да таго ж, Мікалай — актыўны карыстальнік сацыяльных сетак.

### «Мне не патрэбная была іх пенсія»

Пасля выпіскі Мікалаю далі 1 групу інваліднасці. Аднак ён не карыстаўся аніякімі льготамі, якія прапаноўвае пры гэтым дзяржава: «Мне не патрэбная была ні іх пенсія, ні бескаштоўныя кітайскія гадзіннікі, ні іх кій для сляпых».

Ні паляпшэнняў, ні пагаршэнняў зроку ў Мікалая не было: «Святлафор я не бачу. Нумары аўтобусаў не бачу...» Аднак пасля чарговага абследавання МРЭК дала Мікалаю 2 групу.

— У мяне чатыры гады была 1 група інваліднасці. Лепш мне не стала. Да таго ж у мяне дадалася катаракта, глаўкома... Я стаў змагацца за тое, каб мне патлумачылі логіку такога рашэння. Эпапея пачалася ў 2017 годзе. За гэтыя тры гады я прайшоў 11 камісій, суды на розных узроўнях, аднак 2 групу ўсё адно мне пакідаюць.

### Надзея на змены і арышт жонкі

— Сёлета ў нас упершыню з'явілася нейкая надзея, — дзеліцца Мікалай, — мы вырашылі ісці на выбары.

Увечары 9 жніўня Мікалай і яго сям'я тры гадзіны чакалі вынікаў галасавання. Яны жывуць непадалёк ад стэлы.

— Мы бачылі і АМАП, які прыехаў увечары да выбарчага ўчастку, і пагашанае святло ў школе, дзе ішоў падлік галасоў, — распавядае Мікалай.

# калегамі цяпер не камунікую»

***— А што ты і твае калегі казалі тады і думалі пра пратэстоўцаў?***

— Паміж сабой мы казалі: «Што яны ўсё ходзяць, чаго ім не хапае, толькі адпачываць нам не даюць. Мы вымушаныя ў выходныя стаяць цэлымі днямі ў экіпіроўцы, замест таго, каб быць дома, займацца сваімі справамі».

Але пасля прыйшлі іншыя пытанні: чаму ж яны ўсё ходзяць? Чаго хочуць? Я стаў шукаць інфармацыю, пачаў разбірацца, што да чаго. Наогул, хто хацеў, той знаходзіў інфармацыю і разбіраўся. Асабліва калі з'явіўся «Зубр». У іх быў нестандартны падыход да пратэсту, нам яны падабаліся, яны выклікалі інтарэс сваёй крэатыўнасцю. Мне здаецца, у гэтага руху былі вялікі патэнцыял, які так і не раскрыўся.

У 1999-м Дзмітрыеў перайшоў на службу ў Партызанскае РУУС.

— У той час яшчэ працавалі тыя, хто сапраўды сумленна змагаўся са злачыннасцю. Я яшчэ заспеў, напрыклад, двух участковых інспектараў, якія сыходзілі на пенсію, адпрацаваўшы па 20 гадоў на адным участку. Яны ведалі ўсіх і ўсё, што адбывалася на іх тэрыторыі. Іх паважалі і слухаліся. Яны маглі проста за вуха прывесці ў аддзяленне любога бандзюгана. Але такія людзі сыходзілі, а на іх месца прыходзілі іншыя, з зусім іншым узроўнем і адукацыі, і падрыхтоўкі. Паступова колькасць тых, хто працуе «на зямлі», у РУУС скарачалася, а вось колькасць начальнікаў у сістэме МУС, наадварот, расла.

***— Скажы, тады таксама білі, здзекаваліся, неабгрунтавана выкарыстоўвалі сілу і гвалт да затрыманых?***

— Такога тады нават сваё не зразумелі б. Мог, канечне, опер у сваім кабінеце крымінальніка прыцiснуць, але каб такое, як цяпер... А прымяненне газу наогул лічылася надзвычайным здарэннем, там бы столькі папер і тлумачальных трэба было б напісаць... Але паступова стала ўсё мяняцца. Пры Навумаву наогул галоўным крытэрам адбору кадраў сістэмы МУС стала лаяльнасць.

Тое, што адбывалася ў сістэме МУС, і тое, што адбывалася ў краіне, не магло заставацца незаўважаным. У 2006 годзе Дзмітрый Дзмітрыеў стаяў на Плошчы Каліноўскага, але не ў якасці праваахоўніка, а ў якасці ўдзельніка. Пасля прыносіў у наметавы лагер ежу, цёплае адзенне і іншыя патрэбныя рэчы. У гэты ж час пачаў цікавіцца фатаграфіяй. І нават зрабіў фотарэпартаж з Плошчы–2006.

— Я бачыў, як знішчаюцца службы: вышук, патрулька... Сыходзіць участковы, а яго пасаду проста скарачаюць, бо няма кім замяніць. Затое штат МУС, ГУУС павялічваўся. Паступова ў сістэме заставалася ўсё менш прафесіяналаў. У выніку я проста не вытрымаў. Хаця мне заставалася ўсяго 3 гады да пенсіі.

Са службы Дзмітрый сышоў у 2012 годзе ў званні падпалкоўніка МУС, з пасады старшага аператыўнага дзяжурнага Савецкага РУУС.

### «Спачатку з'явілася злосць, пасля проста стала іх шкада»

Па іроніі лёсу, у 2020 годзе фотакор Дзмітрый Дзмітрыеў сустрэўся са шмат якімі сваімі калегамі. І ў Партызанскім, і ў Савецкім РУУС. Экс-калегі з Савецкага РУУС забралі яго машыну, нібыта каб праверыць, ці не перабітыя нумары кузаву, а на самай справе — за тое, што Дзмітрый быў занадта актыўным у выбарчай кампаніі, а на яго аўто былі прычэпленыя бел-чырвона-белыя сцягі. Пасля з Партызанскага РУУС яго адвезлі на Акрэсціна 9 жніўня, адтуль жа ён паехаў на 10 сутак пасля затрымання 1 лістапада.

Затрымання, дарэчы, жорсткага. Дзмітрый здымаў марш — і раптам адчуў моцны ўдар па галаве, які звалiў яго з ног. Фотакора паклалі тварам у зямлю, скруцілі рукі і адвалаклі ў бус.. Там таксама білі. А пасля адвезлі ў Партызанскае РУУС. Пасля таго затрымання Дзмітрый усё яшчэ лекуецца. Ад удараў па галаве пашкодзілася ў тым ліку і барабанная перапонка.

Дарэчы, у той дзень былі затрыманыя тры фотакарэспандэнты нашай рэдакцыі. І нягледзячы на тое, што яны спрабавалі сумленна рабіць сваю працу, іх абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным мерапрыемстве, непадпарадкаванні законнаму патрабаванню работніка міліцыі, а Дзмітрыева — яшчэ і па арт. 342 КК.

— Калі б мне яшчэ год таму хто сказаў, што мае, так бы мовіць, калегі будуць рабіць такое... Хаця, калі падумаць, званочкі былі і раней, канечне. Можна было такое чакаць. Проста мне, напэўна, не хацелася ў такое верыць.

***— Што ты адчуў, калі цябе затрымалі, калі ўбачыў усё тое, што адбывалася ў РУУС, на Акрэсціна?***

— Спачатку — злосць. Злосць ад бяссілля: калі яны такое робяць, значыць, ім далі на тое дазвол. Пасля прыйшло расчараванне. А пасля мне стала іх усіх шкада. Шкада ад таго, што яны не ў стане зразумець, што адбываецца, што нават не хочуць пра гэта падумаць... Што яны так і застануцца на гэтым узроўні, бо не хочуць ні ў чым разбірацца.

***— Ці змяніў цябе жнівень 2020-га?***

— Змяніў, канечне. Я стаў менш думаць пра сябе. Стаў жыць цяпер і зараз. Стаў больш аналізаваць паводзіны іншых людзей. Мне стала значна цікавей жыць. Мне цікава ўсё, што адбываецца, і цікава тое, як я ў гэтым магу паўдзельнічаць.

З былымі калегамі спыніў усялякую камунікацыю. Таму што яны — не апошнія людзі ў сістэме, займаюць кіруючыя пасады. Яны ўсё бачаць і ведаюць і нічога не прадпрымаюць. Я лічу гэта здрадай, у тым ліку і асабістай.

Я, безумоўна, змяніўся. Цяпер вось буду асвойваць гэты свой новы стан. І новы стан грамадства. Кожны дзень прабіваецца дно, але кожны дзень адбываецца і шмат чаго добрага і станоўчага. Гэта трэба бачыць, гэта важна бачыць, гэтым трэба жыць. Зіма хутка пройдзе. А вясной будзе вясна...



Марш 1 лістапада 2020 года. Гэта фота — апошняе з тых, што паспеў зняць Дзмітрый 1 лістапада 2020 года

# Трэба быць тут і рабіць тое, што ў тваіх сілах»




Праз сваю грамадзянскую пазіцыю сям'я хутка пачала адчуваць ціск з боку міліцыі.

— Пачалося ўсё з таго, што ў лістападзе дадому прыйшлі два міліцыянеры, якія сказалі, што яны з Цэнтральнага РУУС, запрашалі на гутарку, — узгадвае Мікалай. — Вольга сказала, каб ёй даслалі позву, тады яна з'явіцца ў РУУС.

У хуткім часе позвы сталі прыходзіць. У іх было сказана, што супраць сужэнцаў вядуцца адміністрацыйныя працэсы па артыкуле 23.34. Адну з позваў даслалі на імя дачкі Яны, якой на той момант было 15 гадоў.

— Мы сталі абурацца, наколькі гэта наогул законна: дасылаць позву на імя непаўнагадовага дзіцяці, — распавядае Мікалай. — Супрацоўнікі міліцыі выбачыліся. Аднак пасля гэтага выпадак нам перакваліфікавалі як невыкананне бацькоўскіх абавязкаў. Камісія па справах непаўналетніх пакарала нас штрафам.

Мікалай з Вольгай 13 лістапада прыйшлі па позве ў РУУС і пачулі загад, што «абодвух — у камеру». Мікалай стаў абурацца: «Я паказаў пасведчанне інваліда. Супрацоўнікі выйшлі параіцца. Пасля прыйшлі і сказалі, што жонку трэба пасадзіць у камеру, а мяне — выпусціць пад роспіс».

— Размаўляюць яны па-скоцку, паводзяць сябе па-хамску, — распавядае Мікалай. — Я — «біты хлопец», а жонка першы раз за 52 гады трапіла на суткі. Праз слова ў іх прасочваецца мат, праз гэта жонка ім зрабіла заўвагу. Яны як раззлаваліся ды пачалі пагражаць...

Вольгу тады адвялі ў камеру, цёплыя рэчы ад мужа не ўзялі: праз некалькі гадзін Мікалаю сказалі, што яе ў РУУС ужо няма.

— Я ноч не спаў. А 7.30 у чат скінулі спісы тых, хто быў у ІЧУ на Акрэсціна. Так я даведаўся, што жонка там. А калі Вольга выйшла на чацвёрты дзень з ізалятара, то распавяла, што яе ў ІЧУ завезлі а 5 гадзіне раніцы. А мне ўвесь час казалі, што яе ў РУУС не было. У выніку справу перадалі ў суд. Суддзя вырашыла адправіць справу на дапрацоўку.

І ў Мікалая, і ў Вольгі агулам было два суды. Абедзве справы былі накіраваны на дапрацоўку.

— Для мяне быў стрэс, калі маму затрымалі, — уваходзіць у размову Яна, дачка Бандарэнкаў.

Яна распавядае, што за гэты час з ёй па гэтай справе ўжо некалькі разоў размаўляў сацыяльны педагог у ліцэі, адзін раз сарваўшы дзяўчынку з кантрольнай работы.

— Пакуль незразумела, што з гэтымі адтэрміноўкамі ў судзе будзе, — дзеліцца Мікалай. — Канечне, мы ж такая небяспечная каманда: дзіця, жанчына, інвалід.

Перад самым Новым годам сужэнцаў зноў прыцягнулі да адказнасці па артыкуле 9.4 — невыкананне абавязкаў па выхаванні дзяцей. Мікалаю і Вользе далі па 5 базавых штрафу.

— Я памятаю шмат, але такога раней не было, — разважае Мікалай. — Калі раней бачыў бясчынствы, то цяпер — глабальны тэрор. Я не памятаю такой вялікай колькасці палітзняволеных, якая яна цяпер. Я не памятаю, каб так моцна дзяўбалі людзей розных слаёў. Я пытаў раней і Паўла Севярынца, і Міколу Статкевіча пра тое, як падняць людзей, бо нас выходзіла на акцыі часам па 11 чалавек... А цяпер людзі падняліся.

Я не ведаю, калі гэта ўсё скончыцца, але я ведаю адно: калі знаходзіцца ў Польшчы ці Літве, сітуацыю не вырашыш. Трэба быць тут. І рабіць усё тое, што ў тваіх сілах.



## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### АБХАЗІЯ. Згодна з законам гор

У парламенце непрызнанай Абхазіі — гарачыя дэбаты наконт праекта закона аб зброі. Сутыкнуліся як прыхільнікі легалізацыі зброі, так і яе забароны. Пры гэтым прадстаўнікі першага лагера апелююць да народных традыцый. «Валоданне і нашэнне зброі заўсёды разглядалася ў нашым грамадстве ў якасці элемента палітычнай свабоды асобы, суверэнітэту і бяспекі дзяржавы», — сцвярджаюць яны. Відавочна, што такі падыход дазволіць усім мець дома ледзь не арсенал.

Крытыкі легалізацыі зброі нагадалі парламентарам пра мноства выпадкаў забойстваў на побытавай глебе. Нядаўна на адным з вяселляў застрэлілі тамаду. Акрамя таго, Абхазія жыве ў асноўным за кошт турыстаў, якія наўрад ці паедуць у занадта мілітарызаваны край.

Зрэшты, гэтыя аргументы не спрацавалі. Наадварот, перамагла ідэя, што легалізацыя зброі дазволіць знайсці любы «ствол», з якога заб'юць або параняць чалавека, бо ўсе даныя будуць у праваахоўных органаў. Калі нічога не зменіцца, то ўжо ўвесну кожны жыхар Абхазіі зможа спаслацца на народную традыцыю і набыць зброю.

**Паводле абхазскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Праціўнікі каранціну сыдуць у тэрор?

Так лічыць прэм'ер-міністр Баварыі Маркус Сёдэр (CSU), зыходзячы з логікі развіцця дыскусіі ў колах тых, хто незадаволены каранціннымі мерамі ў Германіі. «Дрэнныя думкі ператвараюцца ў дрэнныя словы, а часам і ў дрэнныя справы. Вось чаму мы павінны не толькі палепшыць меры бяспекі дэмакратычных інстытутаў Германіі, але таксама фундаментальна паглядзець на пагрозу з боку сектантаў», — кажа ён.

Сёдэр таксама выказаў здагадку, што інкубатарам стварэння груп экстрэмістаў стануць асяродкі правапапулісцкай партыі «Альтэрнатыва для Германіі».

Прэса ў прынцыпе падтрымлівае міністра ды ўспамінае, як у жніўні праціўнікі каранціну спрабавалі штурмаваць будынак Рэйхстагу. Пазней, у лістападзе, яны ж увварваліся ў офісныя памяшканні парламента падчас дэбатаў па законе аб абароне ад інфекцый, і напалі на федэральнага міністра эканомікі. У кантэксце нядаўняй спробы штурму Капітолія ў Вашынгтоне пра той эпізод прыгадалі зноў. У панядзелак, 11 студзеня, берлінская паліцыя абвясціла, што ўзмацніла ахову Рэйхстага і ўвяла ў квартал дадатковыя сілы.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Краіна зменіць сцяг?

Як вядома, даўні галаўны боль казахскай улады — брытанскі комік Саша Барон Коэн. Ён прыдумаў папулярны ў свеце вобраз казахстанскага журналіста Барата, які з'яўляецца ў фільмах у тым ліку на фоне афіцыйнага сцяга Казахстана. А паколькі Борат выглядае на экране ідыётам, цень нібыта падае і на прэстыж краіны — а гэта непакоіць яе кіраўніцтва.

Падобна, усе спробы абвергнуць правакацыі Барата праваліліся. Інакш бы ў Казахстане не пачалі гучаць заклікі пра змену дзяржаўнага сцягуа У якасці альтэрнатывы цяперашняму блакітнаму прапануецца сцяг Алаш Арды — самаабвешчанага казахскага нацыянальна-тэрытарыяльнага аб'яднання, якое існавала ў гады Грамадзянскай вайны. Сцяг Алаш-Арды складаўся з зялёнай, чырвонай і жоўтай папярочных палос. У верхнім куце месціліся выявы зоркі і паўмесяца.

Паколькі казахі ставяцца да цяперашняга сцягу краіны, які быў штучна прыдуманы ў пачатку 1990-х гадоў, досыць абыякава, тэхнічна ўвесці новую сімволіку няцяжка. Іншая справа, ці падтрымаюць людзі сімволіку Алаш Арды? У савецкі час руху быў створаны імідж скрайніх нацыяналістаў, брытанне іх сцяга можа выклікаць этнічныя і рэлігійныя спрэчкі. З гэтым згодныя і ініцыятары новай сімволікі. Яны прапануюць спачатку правесці шырокую інфармацыйную кампанію, у рамках якой адкрыць невядомыя старонкі гісторыі.

**Паводле казахскай прэсы**

### МЕКСІКА. Індзейцы акупуюць Еўропу?

Мінула больш за 500 гадоў уварвання еўрапейцаў у Амерыку, і цяпер індзейцы рыхтуюць высадку свайго дэсанту ў Еўропу. Пра гэта заявілі лідары Сапацісцкай арміі нацыянальнага вызвалення (EZLN) — левырадыкальнага паўстанцкага руху ў самым паўднёвым мексіканскім штаце Ч'япас, дзе жывуць пераважна індзейцы.

Праўда, «уварванне» індзейцаў у Еўропу не будзе мець характар заваёвы і асіміляцыі. Плануецца тур на некалькі месяцаў вялікай групы прадстаўнікоў індзейскіх паўстанцкіх і аўтаномных суполак Лацінскай Амерыкі — у большасці моладзі і жанчын, для асабістага знаёмства, сустрэч і абмену ідэямі і досведам з антыкапіталістычнымі і левымі рухамі і арганізацыямі Еўропы. У любым выпадку, цікавасць да паездкі індзейцаў у Еўропе вельмі вялікая. Яе арганізатары адзначаюць таксама інтарэс і да Беларусі — з-за апошніх грамадскіх пратэстаў. З іншага боку, афіцыйны Мінск цяпер шукае падтрымку сярод палітыкаў — праціўнікаў заходняга імперыялізму. Таму не выключана, што дэлегацыю з Лацінскай Амерыкі ў нас будуць сустракаць на самым высокім узроўні.

**Паводле іспанскай прэсы**

# Цяпер яшчэ і Нартумбрыя

Алег НОВІКАЎ

**Прагназаваныя незалежнасць Шатландыі і вяртанне Белфасту ў склад Ірландыі могуць стаць толькі пачаткам эрозіі Вялікабрытаніі. У Лідсе, Манчэстэры, Ліверпулі пачалі марыць пра сваю дзяржаву.**


Фота www.newstatesman.com

Ці ведаеце вы, што невялікі горад Ёрк калісьці быў сталіцай Англіі? Улетку 1298 года кароль Эдвард І перавёз у горад сваю гвардыю, канцылярыю і казну. Яны вярнуліся ў Лондан у 1304 годзе. Такім чынам, прыкладна пяць гадоў гэты паўночны горад быў фактычна адміністрацыйным цэнтрам краіны.

Яшчэ ўчора гэты кур'ёз цікавіў толькі гісторыкаў і краязнаўцаў. Сёння яго разглядаюць як важны аргумент на карысць таго, што Паўночная Англія мае сваю традыцыю дзяржаўнасці. Упершыню такія лозунгі былі агучаныя ў 2015 годзе, калі паўстала Партыя незалежнасці Поўначы (NIP). Натуральна, на той момант носьбітамі падобных ідэй былі маргіналы, дзівакі або аматары палітычнай экзотыкі.

Пра гэта ўскосна сведчыць і змест маніфестаў NIP. «Залатым стагоддзем незалежнасці краю» называецца перыяд паміж сыходам рымлян і прыходам вікінгаў. А адным з прыкладаў вечнай зламысніцасці Поўдня на адрас паўночнага суседа лічацца эканамічныя ліберальныя рэформы Маргарэт Тэтчэр, якія зруйнавалі мясцовую індустрыю.

Стаўленне да ідэі стварэння незалежнай дзяржавы на поўначы Вялікабрытаніі (ідэолагі лічаць, што краіна можа называцца Нартумбрыя — Northumbria) змяніла эпідэмія каронавіруса, якая найбольш чатаў. Снежаньскі нумар BBC History, каментуючы выбух рэгіянальнай свядомасці на поўначы краіны, заклікаў не глядзець на гэты феномен з паблажлівай усмешкай. Часопіс нагадаў, што яшчэ 40 гадоў таму, напрыканцы 1970-х, ідэя шатландскай незалежнасці была сінонімам экспедыцыі на Марс.

Адначасова эканамічная кантора Open Data Institute ў Лідсе паспрабавала спраектаваць эканамічную мадэль Нартумбрыі. У выніку эканамісты прызналі, што ў такой гаспадаркі слабыя перспектывы, аднак поўнага калапсу дакладна не здарыцца. Раней такога кшталту аналітыку ўвогуле ніхто не рабіў.

Пачалі казаць пра незалежнасць і палітыкі. «Цяпер мы ведаем, што для гэтага ўраду азначае перабалансаванне эканомікі. Новыя правілы трэцяга ўзроўню каранціну зруйнуюць рэгіянальную эканоміку, і гэта будзе на карысць Поўдня. Ці не

**Прэса канстатуе рост папулярнасці сепаратысцкіх забабонаў, аднак, тым не менш, пакуль не бачыць сцэнараў перафарматавання руху за суверэнітэт у нейкага сур'ёзнага палітычнага гульца**

моцна атакавала гэты рэгіён. На парадак большая статыстыка заражэнняў і смерцяў на Поўначы ў параўнанні з Поўднем выклікала спекуляцыі наконт таго, што ўсё гэта — зусім не выпадковасць. Маўляў, на Даўнінг-Стрыт працуе свядомая дыспрапорцыя схемы размеркавання сродкаў на медыцыну, калі бонусы дастаюцца Лондану. У дадатак, за кошт каранціну «паўднёвыя», маўляў, плануюць цалкам падавіць «паўночную» гаспадарку.

Увосень сепаратысцкія размовы выйшлі за межы пабаў і прыйшоў час для аднабаковага абвяшчэння незалежнасці Поўначы?» — запытаў у лістападзе мэр Вялікага Манчэстэра сэр Рычард Ліс. Праўда, ён адразу дадаў, што пакуль гэта — толькі жарт.

А вось «у нізах» незалежніцкія пражэкты — ужо даўно не жарт. Як піша брытанскі Independent, «па ўсёй Поўначы ўсё часцей ідуць размовы не толькі пра пашырэнне правоў краю за кошт Вестмінстэра, але таксама пра поўнамаштабны рух за аддзяленне». «Калі Эдынбург і Кардыф аднойчы стануць сталіцамі, дык чаму сталіцай не стаць і Ёрку?» — кажуць мясцовыя жыхары, калі верыць выданню. Паводле згаданага СМІ, графіці, якія выступаюць за незалежную рэспубліку, ужо з'явіліся ў гарадах, у тым ліку Манчэстэры і Лідсе.

Прэса канстатуе рост папулярнасці сепаратысцкіх забабонаў, аднак, тым не менш, пакуль не бачыць сцэнараў перафарматавання руху за суверэнітэт у нейкага сур'ёзнага палітычнага гульца. Тусоўкі накшталт NIP не ўспрымаюцца народам усур'ёз. У лепшыя часы колькасць актывістаў партыі не выходзіла за мяжу ў 250 чалавек.

Зрэшты, нават тых пару сотняў таксама цяжка ўтрымаць разам праз разборкі на культурніцкія тэмы, традыцыйна ўласцівыя падобным ініцыятывам. Так, «нартумбрыйцы» хранічна не могуць знайсці паразумення па пытаннях, напрыклад, як павінна выглядаць сімволіка футбольнай зборнай будучай краіны (гэта, дарэчы, найбольш спрэчнае пытанне), якой будзе яе палітычная мадэль, ці трэба мець будучай дзяржаве свае войска і, нарэшце, дзе павінна праходзіць паўднёвая мяжа. Няма кансэнсусу наконт сталіцы будучай дзяржавы. Ці пагодзіцца вялікі эканамічны цэнтр Манчэстэр на тое, каб сталічны статус дастаўся Ёрку? Гэта не кажучы пра тое, што вызначэнне «Нартумбрыя» гістарычна не ўжывалася да ўсёй Поўначы.

З іншага боку, сацыяльны патэнцыял у руху сапраўды існе. Гэты рэгіён — самы бедны ў Паўночнай Еўропе, нягледзячы на тое, што Англія з'яўляецца пятай краінай па багацці ў свеце. Такі эканамічны дысбаланс з Поўднем дакладна будзе сілкаваць незалежніцкія настроі. Таму пра праект Нартумбрыі, які пакуль выглядае фантастычна, мы дакладна яшчэ пачуем.

# Толькі наперад!

Алег НОВІКАЎ

**Сорак пяць гадоў таму Іспанія пасля смерці Франка канчаткова развіталася з дыктатурай і абрала шлях дэмакратыі.**


Фота www.rossaprimavera.ru

Хаця сам Франка памёр напрыканцы лістапада 1975-га, крызіс яго рэжыму быў відавочны яшчэ раней. Увосень таго ж 1975-га, пасля таго, як суд асудзіў на смерць групу леварадыкалаў і баскскіх нацыяналістаў, пачаўся беспрэцэдэнтны дэмарш з боку еўрапейскіх урадаў.

15 дзяржаў Еўропы адклікалі паслоў з Мадрыду, а мексіканскі прэзідэнт прапанаваў пазбавіць Іспанію прапіскі ў ААН. Па ўсім свеце адбіваліся атакі на іспанскія дыпламатычныя ўстановы. Папа Рымскі канфідэнцыйна даслаў ліст дыктатару з просьбай быць больш гуманным.

Франка, у сваю чаргу, ігнараваў усе пратэсты і больш цікавіўся праглядам гульняў яго любімага «Рэалу». А вось іспанскія чыноўнікі разумелі, што гэта ўжо пачатак агоніі. Характэрны выпадак адбыўся тады падчас нейкага палявання з удзелам кіраўнікоў краіны. У аднаго з прысутных раптам пачаўся псіхічны прыступ. Ён страляў вакол сябе і крычаў: «Мы павінны быць гатовыя! Яны вось-вось прыйдуць за намі!»

Па іроніі гісторыі, крызіс рэжыму па часе наклаўся на крызіс здароўя самога Франка. Напачатку лістапада ён перажыў два сардэчныя прыступы, і ў выніку цяжкай аперацыі аказаўся на крапельніцах і практычна паралізаваным. Толькі перыядычна яму ўдавалася прыходзяць у сябе. У выніку дачка не вытрымала падобнай сцэны і папрасіла адключыць тату ад апаратуры. Хутка ў СМІ з'явіўся некралог.

Народ, натуральна, быў шакаваны. Так ці інакш, за 40 гадоў аўтакратыі Франка ўспрымаўся сталым атрыбутам жыцця іспанцаў — пазітыўным або негатыўным, іншая справа. Як вынік, шмат хто не паверыў навінам, і захацеў асабіста пераканацца ў смерці каўдыльё. У тым ліку гэтым гісторыкі тлумачаць велізарную колькасць людзей, што прыйшлі развітацца з нябожчыкам — ад 300 тысяч да паўмільёна. Зрэшты, у Краіне Баскаў людзі, наадварот, танчылі, а ў Барселоне маўкліва адкаркоўвалі шампанскае — з надзеяй на будучыя перамены.

Іх драйверам, як вядома, стаў малады кароль Хуан-Карлас, які цяпер недзе хаваецца ад Інтэрполу праз абвінавачванні ў фінансавых махінацыях. 45 гадоў таму яму таксама было несалодка. Эліта краіны, якая так ці інакш аказалася саўдзельніцай злачынстваў дыктатуры, баялася хуткай трансфармацыі. Нават «прагрэсіўнае» крыло франкістаў было вельмі асцярожным наконт рэформаў. Што ўжо казаць пра артадоксаў, якія палохалі іспанцаў эротыкай — першым, па іх словах, наступствам усталявання ў краіне дэмакратыі.

Яшчэ адной страхоўкай ад хуткіх пераменаў была культурная палітыка Франка ў апошнія 15 гадоў дыктатуры. Ім кіравала ідэя ўвекавечыць франкізм у вялікіх архітэктурных ансамблях, помніках, кнігах і гэтак далей. Былі прыдуманыя і актыўна навязваліся міфы пра тое, што Франка выратаваў Іспанію і ад ГУЛАГу, і ад уступлення ў Другую сусветную, а пасля вайны — ён запусціў заводы, захаваў духоўнасць і іншае. Супраць перамен быў такі фактар, як страх перад будучыняй. На дварэ стаялі 1970-я гады, іх антуражам былі палітычны тэрарызм і глабальнае супрацьстаянне Масквы і Вашынгтона, якія маглі пачаць змагацца за Іспанію.

І тым не менш, у гэты час гісторыкі фіксуюць фенаменальную рашучасць, з якой іспанцы абралі дэмакратыю і адкінулі любыя прапановы паступовай трансфармацыі. Як ні парадаксальна, пазітыўную ролю адыграла ЦРУ, якое на той момант хутчэй патранавала дыктатуры — як сродак барацьбы з камунізмам. Іспанская газета ABC у мінулым годзе раскапала, што яшчэ ў 1960-я гады ў рамках Фонду Ракфелера агенты ЦРУ стварылі камітэт, у які ўваходзілі расчараваныя ў франкізме палітыкі, а таксама прадстаўнікі інтэлігенцыі. Мэта камітэта была ў фарміраванні ідэалагічнага грунту таго, якой павінна быць Іспанія пасля сыходу дыктатара.

Магчыма, у нетрах таго камітэту і нарадзілася ідэя «Пакта забыцця», калі ахвяры рэпрэсій адмаўляліся ад вендэты дзеля забеспячэння выхаду з дыктатуры. Былыя служкі рэжыму нават не траплялі пад адміністрацыйныя пратаколы. Такая стратэгія, як лічыцца, супакоіла шмат сілавікоў і апаратчыкаў. А некаторыя нават з энтузіязмам далучыліся да будаўніцтва дэмакратычнай Іспаніі. Хаця шмат хто з гэтай публікі ў той час вырашыў перастрахавацца і зрабіць сабе даведку, што ў часы дыктатуры таксама сімпатызаваў апазіцыі.

Сваю ролю ў дыскрэдытацыі аўтарытарнай альтэрнатывы дэмакратыі згуляла і прэса, якая ў пошуках сенсацый кінулася корпацца ў брудной бялізне родных Франка — пасля яго смерці такія пошукі нічым не пагражалі. Былі апублікаваныя сенсацыйныя матэрыялы пра шыкоўны лад жыцця эліты ў часы дыктатуры, пра патаемныя банкаўскія рахункі, пра вялікую колькасць прадметаў мастацтва ў асабняках і замках, якім самае месца ў нацыянальных музеях...

Напэўна, апошняй спробай неяк закансерваваць працэс пераменаў было стварэнне ў снежні 1975-га «дэмакратычнага» ўрада, які цалкам складаўся з былых франкістаў. Яго прэм'ер Арыяс Навара (стары ветэран франкізму) паабяцаў, што будзе ісці «курсам эвалюцыі» і намагацца рэалізаваць «некаторыя рэформы». У праграме ўраду нават не было гаворкі пра амністыю для палітычных вязняў. Ужо ўвесну парламент, які таксама складаўся з франкістаў, дазволіў правядзенне публічных акцый пры ўмове выканання прыкладна дзесяці патрабаванняў.

Праўда, ніякіх законаў народу ў той час ужо было не трэба. У краіне пачаўся маштабны дэмакратычны і сацыяльны рух, які прымусіў караля ўлетку 1976-га адправіць Навару ў адстаўку. Упершыню кіраўніком урада стаў чалавек, персанальна не звязаны з Франка. Лічыцца, што канчатковы дэмантаж рэшткаў іспанскай дыктатуры адбыўся ўлетку 1977-га, калі прайшлі першыя свабодныя выбары. Пра іх дэмакратычнасць таксама сведчыў допуск партыі артадаксальных франкістаў, якая атрымала свае сумленныя два працэнты.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Бідзіна Іванішвілі



Старшыня кіруючай партыі «Грузінская мара», самы заможны чалавек у Грузіі, паведаміў пра рашэнне сысці з палітыкі. «Лічу, што мая місія выкананая. Я прыняў рашэнне канчаткова адысці ад палітыкі і цалкам пакінуць штурвал праўлення партыі», — гаворыцца ў яго заяве.

Грузінскі лідар матываваў прыняцце гэтага рашэння тым, што хутка яму споўніцца 65 гадоў. Ён таксама ўпэўнены, што яго сыход не аслабіць партыю, а наадварот, «яшчэ больш узмоцніць яе, зробіць уладу ў Грузіі больш энергічнай».

З гэтым, аднак, не згодныя многія каментатары. На думку аднаго з экспертаў, дастаткова багаты Іванішвілі ўсё ж неяк утрымліваўся ад распілоўвання бюджэту на сваю карысць. Пасля яго сыходу ў краіне не будзе такой сілы, якая стрымлівае карупцыю.

Зрэшты, магчыма, галоўны «летуценнік» нікуды і не сыходзіць. Так лічаць у вядучай апазіцыйная партыі «Нацыянальны рух», традыцыйна блізкай да экс-прэзідэнта Міхаіла Саакашвілі. На думку апазіцыйных спікераў, поўны сыход алігарха-палітыка з улады стварае пагрозу яго капіталам. Таму, хутчэй за ўсё, анансаваны «сыход» — гэта нейкі трук, каб кіраваць урадам па іншых схемах, паколькі «ў аператыўным кіраванні яго (Іванішвілі) актыўны ці пасіўны ўдзел нічога не мяняе». Таксама дапускаюць, што Іванішвілі сыходзіць з публічнай сферы, каб не адказваць за дэфолт, які, на думку многіх, непазбежны з-за эканамічных наступстваў пандэміі.

### Дональд Трамп



Прэзідэнт ЗША, чыя кадэнцыя заканчваецца 20 студзеня, працягвае здзіўляць свет. 20 студзеня па законе прысягу прынясе наступны прэзідэнт Джо Байдэн. Між тым, Трамп таксама збіраецца прыняць прысягу прэзідэнта 20 студзеня, бо лічыць сябе пераможцам на выбарах. Пра гэта распавёў Крыс Зімерман, старшыня секцыі рэспубліканскай партыі ЗША ў Невадзе.

Зімерман апублікаваў заклік да аднапартыйцаў, з якога вынікае, што Трамп усё яшчэ не капітуляваў і збіраецца зрабіць нейкую гучную акцыю ці падпісаць важны дакумент. Зімерман дапускае, што гэта можа быць падпісаны ўсё яшчэ легітымным прэзідэнтам Закон аб паўстанні. Яго праваой базай стане адзін з артыкулаў канстытуцыі, які надзяляе амерыканскі народ правам падымаць бунт супраць улады. Заканчваецца згаданы тэкст вельмі інтрыгуюча: «У бліжэйшыя 12 дзён адбудзецца шмат чаго — будзе што расказаць унукам! Зноў 1776 год!» (1776 — ключавы год амерыканскай вайны за незалежнасць ад Вялікабрытаніі, год прыняцця Дэкларацыі незалежнасці ЗША).

Органы юстыцыі Невады ўжо адрэагавалі на ліст. Пракурор выступіў з папярэджаннем, што ўлада адэкватна адрэагуе на любыя праявы гвалту. У прынцыпе, падставы для турботаў у пракурора ёсць: большасць выбаршчыкаў-трампістаў не верыць у перамогу Байдэна. Застаецца дадаць, што ў ноч на аўторак іншы блізкі да Трампа чалавек рэкамендаваў амерыканцам запасціся вадой і ежай на бліжэйшыя пару тыдняў.

### Нурсултан Назарбаеў



Экс-прэзідэнт, а па сутнасці дасюль кіраўнік Казахстана на пасадзе старшыні Саўбезу, які мае правы канстытуцыйнага органу, і яго паплечнікі святкуюць перамогу. 10 студзеня ў Казахстане прайшлі выбары ў парламент — Мажыліс, — і мясцовыя саветы.

Нягледзячы на тое, што напярэдадні прагназавалася паўтарэнне ў краіне беларускіх падзеяў, усё скончылася мірна. Казахі, у адрозненне ад беларусаў, пасіўна адрэагавалі на паведамленне пра безумоўную перамогу назарбаеўскай партыі «Нур Атан», якая набрала 71 працэнт галасоў выбаршчыкаў (незалежныя назіральнікі даюць ёй 30–40% галасоў пры вельмі нізкай яўцы). Больш за тое, яшчэ да заканчэння падліку галасоў лідары марыянетачных партый-сатэлітаў павіншавалі галоўную партыю з трыумфам і прызналі сваю паразу.

На думку апазіцыі, такі вынік сведчыць, што ніякай магчымай альтэрнатывы ў рамках дадзеных «выбараў» папросту не было ад самага пачатку, і абраная імі тактыка байкоту была слушнай. Нягледзячы на, як падавалася, агульную негатыўную карцінку, дысідэнты аптымістычна глядзяць у будучыню. Ход выбараў даказаў, што спісы дэпутатаў і канчатковыя лічбы ў выбарчых пратаколах асабіста складае самаабвешчаны «лідар нацыі» — Назарбаеў, які нікуды не сышоў, а кантралюе ўсе палітычныя працэсы.

Такая сітуацыя дазваляе назваць перамогу партыі Назарбаева піравай. Відавочна, што без Елбасы сістэма проста не здольная працаваць.



Сяргей ШАПРАН

# Як судзілі Святлану Алексіевіч

**Гэтак выйшла, што дзве леташнія даты засталіся ў ценю чорных навін мінулага года: 5 гадоў таму Святлана Алексіевіч стала першым беларускім нобелеўскім лаўрэатам, і 30 гадоў таму была апублікаваная кніга «Цынкавыя хлопчыкі», за якую аўтара потым судзілі. Той судовы працэс над Святланай Алексіевіч зрабіўся не проста фактам яе біяграфіі — ён стаў фіналам «Цынкавых хлопчыкаў».**

## Кошт гонару

*З судовай позвы Ляшэнкі Алега Сяргеевіча, былога радавога, гранатамётчыка:*

«6 кастрычніка 1989 года ў артыкуле “Мы вяртаемся адтуль...”, апублікаваным у газеце “Літаратура і мастацтва”, былі надрукаваныя ўрыўкі з дакументальнай кнігі Святланы Алексіевіч “Цынкавыя хлопчыкі”. Адзін з маналогаў падпісаны маім імем (прозвішча пазначанае няправільна).

У маналогу перададзены мой аповед пра афганскую вайну і маё прабыванне ў Афганістане, стасункі паміж людзьмі на вайне, пасля вайны і г. д.

Алексіевіч цалкам сказіла мой аповед, дапісала тое, што я не гаварыў, а калі гаварыў, то разумеў гэта па-іншаму, зрабіла самастойныя высновы, якіх я не рабіў.

Частка выказванняў, якія напісала С. Алексіевіч ад майго імя, прыніжаюць і абражаюць мае гонар і годнасць. [...].

20 студзеня 1993 года.

Без асабістага подпісу».

*Са стэнаграмы дасудовай гутаркі:*

«Суддзя: Т. Гараднічава, адвакаты: Т. Уласава, В. Лушкінаў, пазоўнік: А. Ляшэнка, адказчыца: С. Алексіевіч.

**Суддзя Т. Гараднічава:** Пазоўнік, вы сцвярджаеце, што пісьменніца сказіла факты, якія вы ёй паведамілі?

**А. Ляшэнка:** Так.

**Суддзя Т. Гараднічава:** Адказчыца, прашу вас патлумачыць па сутнасці дадзенага пытання.

**С. Алексіевіч:** Алег, я хацела табе нагадаць, як ты расказваў і плакаў, калі мы сустрэліся, і не веры, што тваю праўду можна будзе недзе надрукаваць. Ты прасіў, каб я гэта зрабіла... Я напісала. І што цяпер? Цябе зноў падманваюць і выкарыстоўваюць. Другі ўжо раз... Але ж ты тады казаў, што ўжо ніколі не дасі сябе падмануць?

**А. Ляшэнка:** Каб вы пабывалі на маім месцы: жабрачая пенсія, працы не маю, двое маленькіх дзяцей... Жонку нядаўна таксама скарацілі. Як жыць? На што жыць? А ў вас ганарары. Друкуецеся за мяжой. А мы, выходзіць, забойцы, гвалтаўнікі. [...]

**Суддзя Т. Гараднічава:** На чым настойвае пазоўнік?

**А. Ляшэнка:** Каб пісьменніца перада мной публічна выбачылася і мне была кампенсаваная маральная страта... [...] За мой зняважаны салдацкі гонар я патрабую, каб С. Алексіевіч заплаціла мне 50 тысяч рублёў.

**С. Алексіевіч:** Алег, я не веру, што гэта твае словы. Ты кажаш гэта з чужых словаў... Я памятаю цябе іншага... І ты занадта танна ацаніў свой абпалены твар, свае страчанае вока... Толькі не мяне трэба клікаць у суд. Ты перабылтаў мяне з Міністэрствам абароны і Палітбюро КПСС... [...]».

## Рамантыка рабства

Мы гутарылі са Святланай Алексіевіч яшчэ да гэтых судовых разбораў — вясной 1991 года, неўзабаве пасля таго, як выйшла яе кніга пра вайну СССР у Афганістане з драматычнымі маналогамі тых, хто выжыў, і з аповедамі маці тых, што вярталіся на радзіму ў цынкавых трунах. Інтэрв'ю называлася сімвалічна — «Каб чалавек жахнуўся самога сябе»...

«Я не хацела пісаць пра вайну. Ніякіх фізічных і душэўных сіл для гэтай тэмы ў мяне ўжо не было. Але ўся наша гісторыя — ваенная. І дзяленне пісьменнікаў на ваенных і неваенных няправільнае — мы ўсе дзеці ваеннага часу, дзеці ваеннага сацыялізму, дзеці ваеннай псіхалогіі, — гаварыла тады Алексіевіч. — Я вельмі доўга чакала, каб з'явілася такая кніга. Я пастаянна чула гук гэтай вайны, калі, напрыклад, спачатку бачыла пахаванне і маці на могілках, а потым гэтая ж маці выступала недзе ў школе, і я з жахам глядзела на хлопчыкаў з гітарамі, што хацелі быць героямі!..

Ваенныя газеты часта абвінавачваюць мяне ў нападках на армію. Але што значыць — нападкі на армію? Мы ўсе — адна армія... Армія — зляпак з нашага грамадства, дзе ўсе плюсы і мінусы даведзены да вобраза, да сімвала. Я лічу: каб даведацца, што гэта за грамадства, трэба ўбачыць яго ныя войска і турму. Там бяспраўе і рабства дасягнулі максімальных формаў».

І хоць з таго часу прайшло трыццаць гадоў, я і сёння памятаю яшчэ адну жорсткую фразу пісьменніцы, якая была адной з тых глыбінных прычын, з-за якой яе потым прыцягнулі ў суд: «Мы зразаем гэты нарыў, а не займаемся самагубствам. І калі ў Тэатры імя Янкі Купалы мы рэпеціравалі сцэны са спектакля, я казала актрысам, што іграюць маці: «Не іграйце пакуты! Калі вы пакутуеце, вы тым самым кажаце: вінаватая армія, яшчэ нехта! Але забойцы сыноў — вы самі. Вы, рабы, выхавалі рабоў, бо ніхто з вас не выйшаў на плошчу, як рабілі гэта ў Амерыцы салдацкія маці. Ніхто не спаліў партбілет! Так што не іграйце пакуты — іграйце забойцаў».

Алексіевіч казала так, бо падчас рэпетыцый адна актрыса крычала ў бок будынка ЦК КПБ, што месціўся побач з Купалаўскім тэатрам: «Вы яго забралі! Вы яго забілі!» У гэтым была звыклая з савецкіх часоў фальшывасць, і пісьменніца параіла актрысе: «Крычыце ў сябе. Гэта вы забілі свайго сына. Бо рабыня выхавала раба. І ўсе мы — рамантыкі рабства. Гэта вы, маці, спачатку выхавалі сваіх сыноў, потым самі ж аддалі іх, а затым самі панеслі іх касцюмчыкі і дзіцячыя сшыткі ў музеі. Вы зрабілі гэта замест таго, каб падумаць: Божа мой, што ён там рабіў? Што з імі зрабілі?! Мы прывыклі вінаваціць каго заўгодна, але толькі не сябе».







## «Мне не патрэбная вашая праўда!»

З судовай позвы Кацярыны Мікітаўны Плаціцынай, маці загінулага маёра Аляксандра Плаціцына:

«[...] У маналогу, надрукаваным у газеце і кнізе, сказаны мой аповед пра сына. С. Алексіевіч, нягледзячы на тое, што кніга дакументальная, некаторыя факты дадала ад сябе, шмат што з маіх аповедаў выкінула, зрабіла самастойныя высновы і падпісала маналог маім імем.

Артыкул абражае і прыніжае мае гонар і годнасць...

Без асабістага подпісу і даты».

*Са стэнаграмы дасудовай гутаркі:*

«Суддзя: Т. Гараднічава, адвакаты: Т. Уласава, В. Лушкінаў, пазоўніца: К. Плаціцына, адказчыца: С. Алексіевіч.

**Суддзя Т. Гараднічава:** Мы слухаем вас, Кацярына Мікітаўна...

**К. Плаціцына:** Вобраз сына, захаваны ў маёй свядомасці, цалкам не адпавядае вобразу, што выведзены ў кнізе. [...] Там усё не так, як я казала. Мой сын быў не такі. Ён любіў сваю Радзіму. (Плача.)

**Суддзя Т. Гараднічава:** Я прашу вас супакоіцца і назваць нам факты.

**К. Плаціцына** (зачытвае з кнігі): «Пасля Афганістана (гэта калі ён прыехаў у адпачынак) яшчэ пяшчотнейшы зрабіўся. Усё яму дома падабалася. Але былі хвіліны, калі сядзе і маўчыць, нікога не бачыць. Начамі падхопліваўся, хадзіў па пакоі. Адзін раз прачынаюся ад крыку: “Выбух! Выбух!” Другі раз чую ўначы: хтосьці плача. Хто можа ў нас плакаць? Маленькіх дзетак няма. Адчыняю яго пакой: ён абхапіў галаву дзвюма рукамі і плача...»

Ён быў афіцэр. Баявы афіцэр. А тут ён паказаны як румза. Хіба пра гэта трэба было пісаць?

**Суддзя Т. Гараднічава:** Я сама гатовая заплакаць. І не раз плакала, калі чытала гэтую кнігу, ваш аповед. Але што тут абражае ваш гонар і годнасць?

**К. Плаціцына:** Разумееце, ён быў баявы афіцэр. Ён не мог заплакаць. [...] Святлана Аляксандраўна, навошта вы такое панапісвалі?

**С. Алексіевіч:** Калі я пісала ваш аповед, я таксама плакала. І ненавідзела тых, хто паслаў вашага сына дарэмна загінуць у чужой краіне. І мы тады былі з вамі разам, былі паплечніцамі.

**К. Плаціцына:** Вы кажаце, я павінна ненавідзець дзяржаву, партыю... А я ганаруся сваім сынам! Ён загінуў як баявы афіцэр. Яго ўсе таварышы любілі. Я люблю тую дзяржаву, у якой мы жылі, — СССР, бо за яе загінуў мой сын. А вас ненавіджу! Мне не патрэбная вашая страшная праўда. Яна мне не патрэбная! Чуеце?!»

## Развітанне з міфамі

«Яны пра ўсё мне распавядалі! — прыгадвала Святлана Аляксандраўна. — Але прачытаўшы ў кнізе хацелі зусім пра іншае: яны хацелі, каб я пісала толькі пра гераізм. Думаю, што гэта масавая культура краіны, у якой мы жылі (а хутчэй за ўсё гэта было прапагандысцка-ваенная культура), навязала ім гэтую гераічную патэтыку, што не прызнае каштоўнасці пачуццяў, перажыванняў і ўласнага жыцця. І вось гэтыя жанчыны чакалі ад мяне, што я зраблю гэтаксама, як і іншыя журналісты, што прыходзілі да іх. Яны ім расказвалі адно, а ў газетах з'яўлялася зусім іншае: там раптам нараджаўся вобраз геройскага хлопца, які перагарадзіў шлях ворагу. То-бок досвед іх чалавечых пачуццяў, іх уласнае асэнсаванне таго, што мы такое, чаму гэта ўсё з намі адбываецца, і што мы наогул разумеем пра сэнс чалавечага жыцця, — усё гэта лічылася не галоўным. І таму самы складаны для мяне канфлікт быў не з уладай (з ёй якраз усё зразумела!), а з масавай свядомасцю, якая і да гэтага часу базіруецца на міфах, сілкуецца міфамі. Развітвацца ж з міфамі вельмі балюча — яны сядзяць у чалавеку вельмі глыбока, дзесьці на падсвядомым узроўні...

І вось калі я напісала праўду пра тое, што ўсё было, па сутнасці, бессэнсоўна, што дзіця, якое ты гадавала ў адзіночку, у цябе проста забралі, а потым нават не далі з ім развітацца... Не кожны чалавек можа падняцца да асэнсавання, што мы такое. Дзяржава прапануе толькі міф пра герояў: маўляў, ваш сын, працягваючы справу бацькоў, па-геройску загінуў... Так, гэты міф яшчэ неяк апраўдвае і тваё цяжкія сумкі, і тваю маленькую кватэру, і тваё слёзы...»

Зрэшты, той першы суд скончыўся нічым — пазоўнікі на судовы разбор не прыйшлі. Аднак праз паўгода пісьменніца атрымала дзве новыя судовыя позвы ўжо ад іншых герояў сваёй кнігі.

**Заканчэнне ў наступным нумары**

# «Рэнэ, а нашы палітвязні змогуць наведаць хакей?»

Сяргей КАЙКО

**Вечарам у панядзелак Рэнэ Фазель сядзеў у VIP-ложы «Мінск-Арэны» і моўчкі глядзеў на лёд. Там, унізе, коўзаліся, перастукваючы клюшкамі, хакеісты мінскага «Дынама» і магнітагорскага «Металурга».**




Гаспадары прайгралі, але тое мала ўзрушыла заўзятараў ды самога Фазеля. Што там гэты шараговы матч КХЛ — сёння перамог, заўтра саступіў — беларусы яшчэ ў жніўні страцілі эмпатыю да сваіх сервільных ды безгалосых «зуброў».

Хто выйграе спрэчку за чэмпіянат свету–2021? Вось сапраўдны «гамбіт», які хвалюе мільёны, мае выразны палітычны складнік і здольны хаця б іміджава, але пахіснуць беларускі рэжым. Пакуль ён у асноўным гуляецца пад дыванам, але гэта толькі надае працэсу інтрыгі.

## Лорд Вестэроса

Чарговы акт «гамбіту» адбыўся напачатку тыдня, калі прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі хакея намаляваўся ў беларускай сталіцы. І быў прадказальна прыняты на самым вышэйшым узроўні. І яшчэ на парозе доўга абдымаўся з Лукашэнкам, яны ціскалі адзін другому рукі і абыходліва, як Чычыкаў з Манілавым, раскланьваліся перад тэлекамерамі і фотааб'ектывамі. Пакуль усё ж не пакрочылі ў залу прыёмаў Палацу Незалежнасці — туды, дзе камін з ляпнінай, цяжкая жырандоля з крыштальнымі пацеркамі ды разная мэбля, якой пазайздросціў бы нават майстар Гамбс.

Фазеля віталі сапраўды як нейкага лорда Вестэроса. Кіраўніка ІІХФ, акрамя Аляксандра Лукашэнкі, сустракалі і яго сын Віктар Лукашэнка, і прэм'ер-міністр Раман Галоўчанка, і міністр спорту Сяргей Кавальчук... І нават старшыня Беларускай федэрацыі хакея (ФХБ) Дзмітрый Баскаў — дарма што за плячыма ганебная гісторыя, якая скончылася трагічнай смерцю мінскага мастака-пратэстоўца Рамана Бандарэнкі.

Па ўсім было відаць, што ў госці завітала апошняя надзея Беларусі на чэмпіянат свету, супраць мінскай прапіскі якога пасля 9 жніўня выступае ці не ўся сусветная — і не толькі спартыўная — супольнасць.

Нібыта ў пацверджанне гэтага, Лукашэнка адразу пусціўся ў шматслоўныя разважанні пра тое, што няма ў нашым цэнтры Еўропы аніводнай перашкоды, каб правесці хакейны форум на касмічным узроўні.

«Як прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі і асабістага сябра Беларусі хачу запэўніць, што ніякай небяспекі ні па якіх пытаннях у Беларусі няма і не будзе — ні па каронавірусе, ні з пункту гледжання палітычнай бяспекі ці фізічнай бяспекі людзей, якія жывуць тут і прыязджаюць да нас як госці», — казаў Лукашэнка, а Фазель яго ўважліва слухаў.

Далей — больш, і ў працяг уступнай часткі 66-гадовы гарант «беларускай стабільнасці» старанна пераконваў 70-гадовага Фазеля шмат у чым. У тым, што беларускія пратэстоўцы бяскрыўдныя — «не штурмуюць урадавыя ўстановы і капіталіі». Што, нягледзячы на 30 тысяч затрыманняў, сотні крымінальных спраў і палітвязняў, «у нас цалкам нармальная абстаноўка з пункту гледжання развіцця дэмакратычных працэсаў». Што ўвесь вэрхал вакол ЧС прыўнесены, канешне ж, звонку: «Мяне хочуць абвінаваціць у тым, што я абараняю сваю краіну і сваіх людзей, але мяне для гэтага і абралі. Я абавязаны забяспечыць грамадскую, унутраную і знешнюю бяспеку людзей і дзяржавы. Можа быць, мае дзеянні ў сувязі з гэтым камусьці на Захадзе не падабаюцца, але гэта іх меркаванні».

Да Фазеля ён звяртаўся як да стрыечнага брата, гаварыў «ты» і называў без цырымоній — проста «Рэнэ».

Зрэшты, калі ад летуценных гарантый справа дайшла да рэальных перспектыў, рыторыка Лукашэнкі стала падкрэслена асцярожнай: «Адказваючы на галоўнае пытанне, як я ўспрымаю ўвесь ажыятаж вакол правядзення чэмпіянату свету ў Беларусі. Скажу шчыра: вельмі спакойна. Здолее Міжнародная федэрацыя хакея выстаяць супраць несправядлівага ціску — значыць, мы правядзем чэмпіянат свету. Адмовіцца Латвія — мы правядзем чэмпіянат у Беларусі, і гэта будзе лепшы чэмпіянат свету ў гісторыі. Калі ж Міжнародная федэрацыя не справіцца з ціскам асобных палітычных колаў асобных краін — значыць, не будзе чэмпіянату свету ў Беларусі. Усё залежыць цяпер ад вас... Таму рабі так, як будзе лепш хакею. Так, як будзе лепш тваім сябрам і табе асабіста. Мы крыўды ўтойваць не будзем».

## З асаблівым цынізмам

Характэрна, што зрабіць «як лепш» Фазель не можа проста фізічна. Як мы ўжо адзначалі напрыканцы мінулага года, у прэзідэнта ІІХФ занадта кароткія рукі, каб асабіста прызначаць і пераносіць чэмпіянаты — і ўвогуле прымаць важныя стратэгічныя рашэнні.

На гэты выпадак у Міжнароднай федэрацыі ёсць аператыўны калегіяльны орган — Савет, куды ўваходзяць, кожны з правам голасу, чатырнаццаць чалавек з трынаццаці краін свету. Яны і вырашаць на спецыяльным пасяджэнні лёс ЧС–2021, які першапачаткова быў аддадзены Беларусі і Латвіі. Дакладная дата нарады пакуль не вядомая, але яна павінна прайсці не пазней за 27 студзеня. Вынікі галасавання, зразумела, таксама прадказаць цяжка. Але, здаецца, Фазель на гэтым тыдні, сам таго не жадаючы, зрабіў вельмі шмат, каб настроіць супраць сябе ці не ўвесь хакейны свет.

Не, ну Лукашэнку ў панядзелак ён адказваў дыпламатычна. Калі адкінуць лішняе, то перш за ўсё заўважыў, што «сітуацыя сёння трохі адрозніваецца ад той, якая была ў 2014 годзе». Але ў працяг абнадзеяў сябра Аляксандра: «Мы тут — каб выправіць сітуацыю і знайсці канструктыўныя рашэнні».

Так, у 2014-м ЧС ужо праходзіў у Беларусі — і за тое рашэнне ІІХФ міжнародная супольнасць добра патузала Фазеля за вусы. Аднак цяпер сітуацыя прынцыпова іншая — і змянілася яна зусім не «трохі». Прававы дэфолт, гвалт і здзекі ў РУУС і на Акрэсціна, судовы канвеер са сведкамі «Іванамі Івановымі» ў балаклавах, малацільня дубінкамі на вуліцах, размахванне зброяй людзьмі без апазнавальных знакаў... І ўрэшце — чалавечыя ахвяры. Ад любой з гэтых дзікунскіх праяў у любога еўрапейца імгненна палезуць на лоб вочы. Вунь ужо і Міжнародны алімпійскі камітэт, не вытрымаўшы, наклаў санкцыі на кіраўніцтва беларускага НАК на чале з Лукашэнкам.

Але Фазель — не любы. Седзячы ў сваім крэсле з 1994-га, ён даўно адметны сваімі сімпатыямі да аўтакратычных рэжымаў — такіх, як Беларусь ды Расія. І ў гэты прыезд у Мінск сваё рэнамэ швейцарац пацвердзіў на ўсе сто. Бо дэманстрацыйнымі абдымкамі з Лукашэнкам прэзідэнт ІІХФ не абмежаваўся. Вечарам таго ж дня — на ўзгаданым вышэй матчы мінскага «Дынама» — ён абдымаўся ўжо з Баскавым... Ці не самай таксічнай фігурай сённяшняга хакея, няўязным у Еўрасаюз аматарам пазразаць бел-чырвона-белыя стужкі ў мінскіх дварах. І зноў жа дэманстрацыйна, пазіруючы перад фотакамерай, з шырокай усмешкай на твары.

Ці гэта была выпадковасць, бо старарэжымны дзед Рэнэ не думаў, што фота патрапіць у сецiва... Ці гэты свядомы выклік грамадскасці — «нахабны і мэтанакіраваны», з асаблівым цынізмам... Гэта ўжо значэння не мае. Як і тое, што ўласна паразмаўляць з Баскавым прэзідэнту ІІХФ у прынцыпе было неабходна — пра той жа чэмпіянат, яго апошнія бессаромныя ўчынкі. Але ж у строгай дзелавой абстаноўцы, а не падчас нефармальнай сяброўскай вечарыны, пасля якой — хоць у рэйд на барацьбу з няправільнай сімволікай...

Вось ад таго часу Фазеля і клянуць на ўсе лады — не толькі ў Беларусі, але і на Захадзе. Ды так, што ніякай фантазіі не хапае, каб уявіць, як ён будзе агітаваць Савет ІІХФ пакінуць чэмпіянат Мінску. Усё той жа надакучлівай і беззмястоўнай мантрай пра «спорт па-за палітыкай»?

## Так і да байкоту недалёка

«Абдымкі з дыктатарам, які адправіў у турмы дзясяткі тысяч людзей!» «Абдымкі з чалавекам, які сфальсіфікаваў выбары, а цяпер жорстка абыходзіцца з беларусамі!» «Поўная адсутнасць маралі!» «ІІХФ павінна звольніць Фазеля!» «Гэта проста мярзотна і непрымальна!»

Вось толькі частка той лексікі, што цяпер кучна ляціць у бок кіраўніка Міжнароднай хакейнай федэрацыі. Прадукуюць яе самыя розныя слаоўі заходняга соцыуму — парламентарыі, міністры, дыпламаты, журналісты, чыноўнікі Еўрасаюза, дэпутаты Бундэстага...

Яшчэ большы пажар у сацсетках, дзе за мінскія братанні з Лукашэнкам і Баскавым Фазеля крыюць на самых розных мовах. Прыгадваюць беспрынцыповасць, адсутнасць увагі да рэпрэсій у Беларусі, былыя падазрэнні ў карумпаванасці... У нейкі час гэтая зваротная сувязь прыняла такія формы, што служба SMM ІІХФ спачатку закрыла каментары ў інстаграме, а пасля — нябачаная рэч — увогуле выдаліла ў афіцыйным фэйсбуку ранішнюю навіну пра візіт свайго боса.

Акрамя анлайну, фіксавалася панядзелкавым вечарам і пратэсная актыўнасць у афлайне. У розных частках беларускіх гарадоў людзі выходзілі з недвухсэнсоўным меседжам для візіцёра з Цюрыха. Жыхары мінскага мікрараёна Лебядзіны — таго самага, дзе бацькоў некалі затрымлівалі наўпрост у дварах разам з дзецьмі ці адрываючы ад калыскі з немаўлём, — рушылі адразу да «Мінск-Арэны», балазе яна побач. «Рэнэ, а нашы палітвязні змогуць наведаць хакей?» — такі надпіс змясцілі яны на прыкметнай расцяжцы.

Зразумела, Фазель нічога гэтага не бачыў. Хакейны матч «Дынама» — «Металург» на той час ужо скончыўся, і боса ІІХФ адвезлі ў гатэль. Але калі перад сном ён паспеў пераглядзець стужкі навін, то павінен быў заўважыць: тэма байкоту чэмпіянату, калі частка яго пройдзе ў Мінску, абмяркоўваецца ўжо ў сямі краінах — амаль палове з тых, чые зборныя мусяць удзельнічаць у турніры. Швецыя, Фінляндыя, Нарвегія, Данія, Чэхія, Германія, Латвія... Мала сумневу, што заўтра ў аналагічным ракурсе могуць паставіць пытанне іншыя — Канада, ЗША, Вялікабрытанія, Швейцарыя...

З чым тады застанецца шаноўны спадар Фазель? З арэолам адваката Лукашэнкі, абкладзенага міжнароднымі санкцыямі і непрызнанага прэзідэнтам? З німбам апекуна Баскава, супраць якога распачалі расследаванне нават дысцыплінарныя органы той жа ІІХФ? З рэпутацыяй лабіста, якога перад цьмянымі мэтамі не хвалююць аніякія маральныя выдаткі?

Ці гэтага хочацца напрыканцы сваёй кар'еры Рэнэ Фазелю — 70-гадоваму дантысту з Фрыбура, які кіруе сусветным хакеем ужо больш за чвэрць стагоддзя?

# Новыя персанажы ў традыцыйных Калядах

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Нягледзячы ні на што беларусы зладзілі калядаванне. Адкуль гэты абрад, што ён азначае і як праходзіць?**

Каляды — час рытуальных абыходаў. Зазвычай удзельнікі свята пераапранаюцца ў традыцыйных персанажаў беларускага калядавання. Гэтыя персанажы вельмі разнастайныя, але актуальную павестку сацыяльнага і палітычнага жыцця каляднікі таксама ўлічваюць.



«Класічнае» калядаванне з Казой. Пагост, Жыткавіцкі раён, 2014 г.



Конікі ў калядных гуртах. Давыд-Гарадок, Столінскі раён, 2017 г.



Дзед і Баба з Царамі. Семежава, Капыльскі раён, 2019 г.

## Традыцыйныя Каляды

Рытуальныя абыходы двароў адбываюцца 25 снежня (Раство) і 6 студзеня (Тры каралі), а таксама 7 (Раство) і 13 (Шчодры вечар) студзеня ў залежнасці ад каляндара. Пераапранутыя ўвасабляюць гасцей з іншага, «таго» свету, які ў разуменні беларускага селяніна не абавязкова знаходзіўся недзе далёка. У завейныя снежныя зімы адназначна «сваёй» прасторай успрымалася толькі хата, а лес, горад і нават уласны хлеў — чужымі і варожымі. Адпаведна, персанажы, якія нібыта адтуль прыходзілі, увасаблялі «чужых» для сялянскай абшчыны сацыяльна і этнічна: дзікіх звяроў і птушак; памерлых продкаў. Вобразы каляднікаў можна падзяліць на некалькі катэгорый.

Найперш, гэта жывёлы і птушкі: Каза (зрэдку Казёл), Мядзведзь, Конь (зрэдку Кабыла), Бык (Тур, Карова), Воўк, Ліса, Заяц, Журавель, Бусел, Дзяцел (з акцэнтам на дзюбу), Сарока.

Да сялян таксама прыходзілі продкі — Дзед і Баба. І «чужыя» для беларускіх сялян сацыяльна ці этнічна: Лекар (Венгр-аптэкар), Поп, Цыган і Цыганка, Жыд і Жыдоўка, Вайсковец пад рознымі імёнамі (Салдат, Афіцэр), Барыня (Паненка), Цар (Кароль), Ямшчык, Прыдурак.

Судакраналіся з прасторай чужога Пастух і Ведзьма, Чорт, Анёл, Смерць, а таксама некаторыя персанажы сімвалізавалі пераход у іншы свет ці іншы статус: Трунар, Плакальшчыца, Сват, Малады і Маладая.

Былі ў Калядках персанажы біблейнага паходжання: тры каралі (валхвы), Ірад і яго світа. А таксама сімвалы свята: Каляда, Шчодра (Шчадрэц).

У гурце персанажы маглі спалучацца па-рознаму. Часам больш старажытныя па паходжанні саступалі першыя ролі больш сучасным ці зусім знікалі з вясковага побыту. Напрыклад, з Царамі вёскі Семежава Капыльскага раёна ходзяць Дзед і Баба. У Віркаве Клічаўскага раёна раней вадзілі Казу, але цяпер засталіся толькі Цыганы.

## Сучасныя калядаванні

У Давыд-Гарадку Столінскага раёна ў адным гурце з традыцыйным Конікам я сустракала каляднікаў, пераапранутых у герояў галівудскіх фільмаў, дыснэеўскіх і савецкіх мульцікаў. З 1980-х гадоў, на хвалі нацыянальнага адраджэння, калядаванне аднавілася і ў буйных гарадах. Гарадскія аматары традыцыйнай культуры найчасцей карысталіся палескім сцэнарам з паміраннем Казы і жартоўным выступам Мядзведзя.

Цяпер гурты каляднікаў часам абыгрываюць рэаліі грамадска-палітычнага жыцця. У канцы 2015-га аўтарка гэтага тэксту ў ролі Цыганкі вадзіла па Мінску Мядзведзя, які сцвярджаў, што замест Смаргонскай акадэміі вучыўся ў Кракаўскім універсітэце і паказваў у якасці пасведчання асобы пародыю на карту паляка. У канцы 2016-га мінская суполка «Вольны архіў» зладзіла калядаванне, у якім дзейнічалі Міліцыянт, камісія Правяральшчыкаў і Навязлівы Маркетолаг. Праз год у Гродне калядавалі некалькі гуртоў з Міліцыянтам у складзе.

На мяжы 2018 і 2019 гадоў эстафету пераняў Магілёў. У складзе каляднага гурта аказаўся Дзед Дармаед і Падатковы інспектар, ён жа Чорт. Такім чынам каляднікі адгукнуліся на спробу ўвесці ў 2018-м дэкрэт супраць дармаедства, які выклікаў масавыя пратэсты. Збіраліся таксама ўвесці ў якасці персанажа Дэпутата — як рэакцыю на балатаванне ў парламент ад Магілёва адыёзнага гісторыка Ігара Марзалюка, але план не здзейсніўся. На пачатку 2020-га ў магілёўскім гурце каляднікаў хадзіў Перапісчык — такім чынам аматары традыцыйнай культуры пераасэнсавалі беларускі перапіс насельніцтва 2019 года, пытанні якога выклікалі шмат кпінаў сваёй недарэчнай падрабязнасцю — напрыклад, пра тое, колькі кустоў і пчаліных сем'яў мелася на падворку. У канцы 2020-га магілёўцы вырашылі абысціся толькі традыцыйнымі каляднымі персанажамі, аднак жадалі гаспадарам: «Каб не ведала ваша хата ні доктара, ні адваката!», маючы на ўвазе каронавірус і палітычныя зняволенні.

Сёлета, нягледзячы на багатую фактуру 2020-га, вядомыя мне гурты калядавалі з традыцыйнымі персанажамі. Магчыма, гэта спроба сысці ад цяжкай рэальнасці ў больш радасны свет традыцый.

**Фота Алены Ляшкевіч**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова № 65

Падпісана да друку 14.01.2021. 8.00.
Наклад 3500 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.